# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень — 27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

29 верасня 2017 года №39 (1170)


Адна зямля




## У "Доме-2" кахання не знайшоў: віляйчанін – пра мадэльны бізнес і ўдзел у ток-шоу

старонка 20

## "Пасля стрыжак сабакі не выжываюць, і мы з мужам ядзім іх на вячэру"

старонка 21

# Хочаце працягнуць маладосць – не сядзіце дома

## Танцуйце, знаёмцеся, даведвайцеся нешта новае



старонка 18

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Падчас "круглага стала" ў рэдакцыі газеты псіхолаг адзначыла, што чым даўжэй чалавек адчувае сваю неабходнасць, тым пазней ён старэе. На старонцы 18-й адказ на пытанне, чым карысным можна займацца пенсіянерам, акрамя агародаў і сядзення на лаўцы.

НАВІНЫ



Фота з блога Юрася КАМАНДЗІРЧЫКА.

У Томску з'явілася скульптурная кампазіцыя Юрася Камандзірчыка па матывах паэмы "Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага.

## Зубр ад разбяра з Купы з'явіўся ў Расіі

МЯДЗЕЛ

Драўляная скульптура **Юрася Камандзірчыка**, разьбяра з Мядзельшчыны, з'явілася ў ваколіцах Томска ў Расіі.

Тут Юры працаваў у межах дзясятага міжнароднага фестывалю майстроў-разьбяроў "Свята сякеры". Па словах майстра, у свяце ўдзельнічалі 198 майстроў з 21 краіны свету.

– Бензапілы гулі, быццам чмялі над кветкамі, – прыгадвае мядзельскі разьбяр.

У выніку ў Расіі цяпер ёсць драўляная скульптура, зробленая па матывах старажытнай паэмы Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра".

Аксана ЯРАШОНАК.

## Кнігі з Астраўца засвяціліся на фестывалі ў Гродне

АСТРАВЕЦ

Сёлета з Астраўца ў Гродна паехалі сем кніг, выкананых у розных тэхніках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, над якімі працавалі вучні і педагогі Гудагайскай сярэдняй школы **Арцём Маргуж і Святлана Башко**, Альхоўскай сярэдняй школы **Іван і Аэліта Рылькова**, педагогі школы №1 **Марына Глаўдзель** і гімназіі №1 **Анастасія Прымак**, настаўніца мастацкага аддзялення Астравецкай дзіцячай школы мастацтваў **Дыяна Ендза** і супрацоўнікі Тракенікскай сельскай бібліятэкі-клуба і цэнтральнай раённай бібліятэкі.

Паводле ostrovets.by.

## На Валожыншчыну прыйшлі маладыя спецыялісты

ВАЛОЖЫН

Сёлета ў сельгаспрадпрыемствы раёна прыбылі на працу 23 дыпламаваныя маладыя спецыялісты, 9 з іх – з вышэйшай адукацыяй і 14 – з сярэдняй спецыяльнай.

Больш за ўсё нядаўніх выпускнікоў ВНУ і каледжаў папоўнілі калектывы таварыства "Агра-Вішнеўскі" – 5 чалавек, прадпрыемства "Сакаўшчына-агра" – 4, таварыства "Лоск" – 3.

Па тры маладыя спецыялісты прыйшлі тақсама ў Пяршаі і "Падбярэззе".

Паводле psl.by.

## 7 кастрычніка ў Смаргоні зладзяць сельскагаспадарчы кірмаш

СМАРГОНЬ

7 кастрычніка ад 9:00 да 15:30 у Смаргоні на вуліцы Якуба Коласа арганізуюць кірмаш "Шчодрай восені дары ", дзе можна будзе набыць сельскагаспадарчыя прадукты.

Акрамя гандлю, арганізатары запланавалі забавы і конкурсы.

Аддзел інфармацыі.

## Фестываль бегу арганізуюць у Ашмянах

АШМЯНЫ

30 верасня ў 10:00 у Ашмянах на плошчы перад універмагам стартуе першы раённы фестываль бегу "Ашмянская пяцёрка".

Спаборніцтвы складаюцца з двух этапаў: "Залатая міля" (1609 метраў) для дзяцей і падлеткаў 14-15, 16-17 гадоў і "Ашмянская пяцёрка" (пяць кіламетраў) для ўдзельнікаў 18-39 гадоў, а таксама для 40-гадовых і старэйшых.

Арганізатары запрашаюць усіх ахвотных, хто не мае супрацьпаказанняў па стане здароўя.

Больш падрабязныя звесткі можна атрымаць па тэлефоне **8015 (93) 43091**.

Аддзел інфармацыі.

# Перашкодзілі дзве прыступкі

## Крыху пра безбар'енае асяроддзе ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ

**Брытанскія навукоўцы "парадавалі": Еўропу чакае самая халодная зіма за апошнія сто гадоў. Беларусам застаецца вызначыцца, з'яўляюцца яны часткай Еўропы ці не…**



Фота з блога Дар'і Ліс.

Допіс у Кнізе скаргаў і прапаноў жыхарка Залесся Дар'я Ліс пакінула ўпершыню.

Але па факце халодная зіма чакае і нас… Калі верыць брытанскім навукоўцам. Можна заставацца аптымістам і "забіць" на ўсе прагнозы сіноптыкаў: вельмі ўжо часта яны памыляюцца. Можна ўвогуле навіны не чытаць.

Не зашкодзіць падстрахавацца. Якім чынам? Пледаў цёплых набыць, світаркоў навязаць, з дому паменш выходзіць (дыстанцыйная праца вам у дапамогу – XXI стагоддзе на дварэ!) і… Яшчэ адзін варыянт зберагчы здароўе зімой – прышчапіцца ад грыпу.

Не дадаваць сабе пакутаў у халады, трасучыся ад тэмпературы пад клятчастым пледам. І будзе вам шчасце.

Праўда, не ўсім яно адразу ў рукі пойдзе! Кагосьці ў даволі дарагім прыватным медыцынскім цэнтры будуць чакаць дзве вельмі нязручныя прыступачкі! Для чалавека на інвалідным вазку з некаторымі хранічнымі захворваннямі прынцыпова важна прышчапіцца як мага раней ды паспець выпрацаваць імунітэт да халадоў.

Без праблем – едзем у платны медцэнтр, дзе ўжо ёсць вакцыны і аплачваем французскую прышчэпку. Усё цудоўна, толькі вось…



Фота з блога Дар'і Ліс.

Тыя самыя дзве нязручныя прыступкі.

Дзве прыступачкі ў адным з прыватных маладзечанскіх медыцынскіх цэнтраў, які працуе ўжо не першы год.

Пандус? Не, не чулі! Уладальнікі шкадуюць грошай на такую "драбязу". Хоць, па словах супрацоўнікаў, я не першая, хто пытаецца пра пандус.

На пафасны рамонт грошай не шкадуюць. А вось на пандусы іх няма.

Дзяўчаты працуюць там добразычлівыя – дапамаглі і ў цэнтр заехаць, і назад выехаць. І Кнігу скаргаў далі без праблем.

І запіс у той Кнізе скаргаў і прапаноў пацыентка на інвалідным вазку ім пакінула… Гэта быў мой першы досвед такога допісу. Прынцыповая? Аптымістка! А раптам гаспадар падумае пра безбар'ернае асяроддзе? Ва ўсялякім разе супрацоўнікі абяцалі, што пандус будзе.

Пажывём – пабачым! З'ездзім яшчэ раз. Пакуль выпрацоўваем імунітэт пад клятчастым пледам і чытаем дэтэктывы.

Дар'я ЛІС, жыхарка Залесся.

## Як віляйчане пражылі дзень без аўтамабіля

ВІЛЕЙКА

Атрымаць падарунак толькі за тое, што ты на роверы, а не на машыне, можна было ў Вілейцы 22 верасня.

Тут зладзілі мерапрыемствы дня без аўтамабіля.

Актывісты горада распавядалі ў працоўных калектывах пра важныя ідэі ўстойлівай мабільнасці.

22 верасня ў горадзе перакрылі ўчастак дарогі па вуліцы Партызанскай. Тут работнікі Палаца культуры арганізавалі забаўляльныя мерапрыемствы для дзяцей і дарослых. З дзецьмі правялі конкурс малюнкаў на асфальце.

Усім раварыстам, якія праязджалі ў гэты дзень па Партызанскай, уручалі флікеры і салодкія пачастункі.

Па словах адной з каардынатараў акцыі **Вольгі Шляпо**, на працу ў дзень дня ўдзельнікам акцыі прапаноўвалі пачаставацца чаем і прысмакамі.

Сумесна з аўтобусным паркам арганізавалі бясплатны праезд уладальнікаў аўто, якія ў гэты дзень вырашылі на працу дабірацца на грамадскім транспарце. Па словах дырэктара аўтобуснага парка **Аляксандра Рогача**, на дзевяці гарадскіх маршрутах восем пасажыраў прад'явілі дакументы на кіраванне аўтамабілем і праехалі бясплатна.




Фота vk.com.

Намеснік дырэктара Вілейскага Палаца культуры Вольга Шляпо і галоўны архітэктар раёна Дзмітрый Гарланаў ладзяць тэматычную фотасесію.

# У якіх банкаматах можна зняць грошы без камісіі

**Трэба тэрмінова зняць наяўныя, а побач няма банкамата патрэбнага банка.**

Напэўна, многія траплялі ў такую сітуацыю.

Яшчэ больш непрыемна, калі вы ў банку здымаеце неабходную суму, а з карткі спісваюць суму ледзь не ўдвая большую. Камісія.

Тут бай паглядзеў, у якіх банкаматах можна здымаць з картак наяўныя без камісіі.

**Паводле tut.by**


Фота tut.by

| Банк | Банкі-партнёры | Заўвагі |
|---|---|---|
| Альфа-Банк | Банк БелВЭБ<br>Банк Масква-Мінск<br>Банк БСБ<br>Банк Ідэя<br>Банк РРБ<br>Тэхнабанк | |
| Банк БелВЭБ | Альфа-Банк<br>Банк Масква-Мінск<br>Банк БСБ<br>Банк РРБ<br>Тэхнабанк | |
| Беларусбанк | Белаграпрамбанк<br>Белінвестбанк<br>БПС-Ашчадбанк | |
| Белаграпрамбанк | Беларусбанк<br>Белінвестбанк<br>БПС-Ашчадбанк<br>Прыёрбанк | БЕЛКАРТ — Беларусбанк, Белінвестбанк, БПС-Ашчадбанк, Прыёрбанк Visa або MasterCard – Беларусбанк, Прыёрбанк, Белінвестбанк |
| Белгазпрамбанк | Банк ВТБ (Беларусь)<br>МТБанк | Банк ВТБ – толькі Visa |

| Банк | Банкі-партнёры | Заўвагі |
|---|---|---|
| Белінвестбанк | Беларусбанк<br>Белаграпрамбанк<br>МТБанк | МТБанк – толькі Visa або MasterCard |
| БПС-Ашчадбанк | Беларусбанк<br>Белаграпрамбанк<br>Прыёрбанк | Visa або MasterCard – Беларусбанк Прыёрбанк БЕЛКАРТ – Беларусбанк Белаграпрамбанк |
| Ідэя Банк | Альфа-Банк<br>Банк БелВЭБ<br>Банк Масква-Мінск<br>Банк БМБ<br>Банк РРБ<br>Тэхнабанк | Для карты “На здароўе” – без камісіі да 2000 беларускіх рублёў у банкаматах любога банка |
| Прыёрбанк | Белаграпрамбанк<br>БПС-Ашчадбанк | Аддзяленні Белпошты (да 5000 беларускіх рублёў у месяц, для Visa Classic и MasterCard Standard – усе банкаматы не бяруць камісію |
| Тэхнабанк | Альфа-Банк<br>Банк БелВЭБ<br>Банк Масква-Мінск<br>Банк БСБ<br>Банк Ідэя<br>Банк РРБ | |

## Гэтая мілая паштовая скрыня запрашае вас падпісацца на “Рэгіянальную газету”


*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

### Падпісацца можна:

✓ праз сайт “Белпошты”. Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем “афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі”, выбіраем “Алфавітны”. Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару “Р”, справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – “Рэгіянальная газета”.

✓ на пошце,

✓ праз паштальёна

✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі, на тры месяцы – 9 рублёў.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 9 рублёў, на тры месяцы – 27 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

Цана са скідкай на месяц для індывідуальных падпісчыкаў роўная **2,40** рубля, для ведамасных – **8,29**.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 21.09 | 28.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9405 | **1,9614** |
| Еўра | 2,3295 | **2,3033** |
| Злоты, 10 | 5,4463 | **5,3561** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,3389 | **3,3770** |
| Грыўня, 100 | 7,4086 | **7,4099** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ”** | **20.09** | **27.09** |
| Еўра | 2.3100/2.3350 | **2.2950/2.3100** |
| Долар ЗША | 1.9300/1.9500 | **1.9450/1.9650** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 20.09 | 27.09 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,58 | **16,85** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,68 | **6,68** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,35 | **3,35** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,85 | **3,85** |
| Селядзец, 1 кг | 3,60 | **3,30** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,30 | **1,70** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,85 | **1,80** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,30 | **1,30** |
| Алей “Золотая семечка” 1 л | 2,30 | **2,80** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,50 | **1,60** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | **0,75** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,49** |
| Капуста, 1 кг | 0,55 | **0,59** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Кабачкі, 1 кг | 0,80 | **1,00** |
| Гарбуз, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Лімоны, 1 кг | 3,80 | **3,85** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Дыня, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 1,20 | **1,40** |
| Агуркі, 1 кг | 1,49 | **2,30** |
| Перац, 1 кг | 1,30 | **1,49** |
| Кавун, 1 кг | 0,70 | **0,75** |
| Вінаград, 1 кг | 3,49 | **3,49** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,30 | **4,00** |
| Ківі, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Персікі, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,50 | **3,20** |
| Слівы, 1 кг | 2,49 | **2,69** |
| Бананы, 1 кг | 1,45 | **1,85** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,45 | **3,99** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,50 | **1,49** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,49** |
| Грушы, 1 кг | 3,85 | **3,80** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | - | **7,00** |

## З-за пральнай машыны загарэлася праводка

**ВІЛЕЙКА**

22 верасня ўвечары гаспадары дома на вуліцы Стаўкі ў Вілейцы вырашылі памыць бялізну і ледзь не спалілі дом.

**Як толькі гаспадар прыватнага двухпавярховага дома ўключыў пральную машыну-аўтамат, выбіла пробкі ў лічыльніку.**

Адразу пасля гэтага мужчына пачуў гул агню на гарышчы.

Гаспадар працягнуў туды шланг і пачаў тушыць полымя самастойна. Аднак суседзі, убачыўшы агонь, каля васьмі гадзін вечара выклікалі выратавальнікаў, якія дапамаглі патушыць пажар.

Па словах інспектара вілейскага РАНС **Аляксандра Казакевіча**, абгарэла адна сцяна на гарышчы, па якой праходзіла электраправодка.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Гарэлі хата, лазня, гараж і хлеў

**ВІЛЕЙКА**

Паведамленне пра тое, што ў адным з вілейскіх двароў гарыць хата і гаспадарчыя пабудовы, вілейскія выратавальнікі атрымалі 23 верасня ў 10 гадзін.

Калі прыехалі на месца, аказалася, што гарыць хата, лазня, хлеў і гараж.

**Па словах гаспадара, яны з трыма сябрамі сядзелі і выпівалі, калі пачулі пах дыму з суседняга пакоя.**

Адчыніўшы дзверы, убачылі агонь.

На той момант суседзі ўжо выклікалі выратавальнікаў. Яны заўважылі пажар раней, чым гаспадар з сябрамі.

У хаце былі два выхады, таму мужчыны выбеглі праз другія дзверы, і ніхто не пацярпеў.

Хата згарэла цалкам. Астатнія будынкі агонь пашкодзіў нязначна.

Па словах інспектара вілейскага РАНС **Дзмітрыя Клешняка**, разглядаюць некалькі прычын узнікнення пажару.

Аксана ЯРАШОНАК.

## У Куранцы "МАЗ" наехаў на раварыста

**ВІЛЕЙКА**

Адбылося гэта пасля пяці гадзін вечара 23 верасня.

На вуліцы Папаніна ў Куранцы 39-гадовы мясцовы жыхар ехаў на МАЗе ў накірунку цэнтральнай плошчы.

Машына наехала на 53-гадовага раварыста, таксама мясцовага жыхара. Той выехаў з другараднай дарогі на праезную частку.

У выніку раварыст з траўмамі шпіталізаваны. Устаноўлена, што ён знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.

Паводле ДАІ Мінскай вобласці.

## Жыхара Маладзечаншчыны шпіталізавалі пасля аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Адбылася яна каля дзевяці гадзін вечара 24 верасня на 31-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач паблізу вёскі Гарошкі Мінскага раёна.

23-гадовы жыхар Маладзечанскага раёна на аўтамабілі "Сеат-Ібіца ехаў у накірунку Маладзечна.

Мужчына не справіўся з кіраваннем. Аўтамабіль выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнуўся з машынай "Міцубісі-Галант", якая рухалася ў сустрэчным напрамку. Ёй кіраваў жыхар Мінска.

У выніку кіроўца аўтамабіля "Сеат" шпіталізаваны.

Пацярпелы не быў прышпілены рамянём бяспекі, паведамляе ДАІ Мінскай вобласці.

Аддзел інфармацыі.

# З крыкамі: "Ты што, смерці не баішся?!"

## валожынец закрыў сужыцельку ў доме, дзе гарэў матрац

**ВАЛОЖЫН**

**Супраць 57-гадовага жыхара Валожына ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле " Пагроза забойства".**



Мужчына так раззлаваўся, што падпаліў матрац. Кадр з фільма "Атрад самазабойцаў".

Фота Amino Apps.

Жылі ў Валожыне сумесна двое, мужчына і жанчына. Часам любілі выпіць.

У той дзень яны выпівалі, жанчына сказала: "Хопіць!", а яе сужытніку паказалася мала. Ну, і стаў ён чапляцца да сваёй жанчыны спачатку з просьбамі, а затым і з пагрозамі:

– Ну, дай яшчэ грошай на бутэльку!

– Не дам!

– Ну, дай!

– Не!

– Дай, а то спалю!

– Палі!

Пасля такога дзёрзкага адказу, мужчына ўзяў запалку і падпаліў матрац, які стаяў у пакоі.

Ён выйшаў, жанчына пайшла за ім, аднак той сказаў: "Ты што, смерці не баішся?!" і зачыніў жанчыну ў пакоі, дзе ўжо тлеў матрац.

Жанчына ўсё ж змагла выбрацца з памяшкання і выклікаць пажарных.

Пра гэта расказала старшая следчая Валожынскага РАСК **Дар'я Мікуліч.**

Наталля ТУР.

## Бінга! Адзін і той жа інспектар ДАІ адабраў правы ў парушальніка сёння і пяць гадоў таму

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Вечарам 23 верасня ў вёсцы Гарадзілава інспектары ДАІ спынілі машыну "Міцубісі-Галант", за рулём якой знаходзіўся 26-гадовы вадзіцель, жыхар Маладзечанскага раёна.**

На просьбу паказаць дакументы, хлопец адказаў, што з дакументамі ўсё ў парадку, але інспектарам іх не пакажа.

Калі супрацоўнікі ДАІ больш пагутарылі з вадзіцелем, зразумелі, што ад яго пахне спіртным. Пазней экспертыза паказала, што ў крыві маладога чалавека было 2,18 праміле алкаголю.

Калі ж супрацоўнікі ДАІ праверылі хлопца па сваёй базе, аказалася, што ў снежні 2016 года хлопец ужо затрымліваўся за язду ў нецвярозым стане і без дакументаў.

Машына парушальніка дастаўленая на штрафстаянку, а супраць яго самога складзены цэлы шэраг пратаколаў. Узбуджаная крымінальная справа па артыкуле 317 (заўвагі) КК РБ.

24 верасня ў службу 102 патэлефанаваў мужчына, які жыве па вуліцы Будаўнікоў, дом 20. Ён расказаў, што яго неабыякавы сусед бачыў, як 29-гадовы малады чалавек (таксама жыве па суседстве) выязджаў на сваім "Фордзе-Мандэа" і зачапіў машыну "Сітраэн-Ксантыя". А сам з'ехаў.

Супрацоўнікі ДАІ, якія прыехалі на месца здарэння, сапраўды, заўважылі, што машына пашкоджаная. Суседзі ўказалі напрамак, у які з'ехаў "Форд", і хутка вадзіцеля спынілі.

Экспертыза паказала ў яго крыві 3,2 праміле алкаголю. Як высветлілася, роўна пяць гадоў таму хлопец быў пакараны па артыкуле 317 за кіраванне машынай у нецвярозым стане. І ў верасні толькі скончыўся пяцігадовы тэрмін пазбаўлення правоў.

І вось як бывае. І пяць гадоў таму, і ў гэтую нядзелю затрымліваў мужчыну адзін і той жа інспектар ДАІ.

Кіроўца патлумачыў, што проста хацеў переставіць машыну і не заўважыў, што заднім ходам наехаў на іншую.

Сяргей БАРТОШ,
інспектар
Маладзечанскай ДАІ.

## Каб скрасці матацыкл, двое падлеткаў з Ракава распрацавалі план

**ВАЛОЖЫН**

**Забягаючы наперад: план праваліўся.**

Здарэнне адбылося ў жніўні ў мястэчку Ракаў.

Двое 17-гадовых хлопцаў выпадкова заўважылі, што ў суседа ў гаражы стаіць старэнькі, але даволі прыстойны матацыкл, на якім той не ездзіць.

Яны распрацавалі план, як можна выкрасці матацыкл і прадаць.

Купілі пальчаткі, зверылі гадзіннікі і пайшлі на справу.

Позна ноччу матацыкл удалося скрасці з гаража.

Аднак на наступны дзень сусед заўважыў прапажу і расказаў пра гэта ўсім знаёмым і суседзям.

Па мястэчку пранесліся чуткі, што сусед заявіў у міліцыю. Падлеткі, спужаўшыся, што могуць падумаць на іх, распрацавалі яшчэ адзін план, як вярнуць матацыкл яго гаспадару.

У нейкім крымінальным фільме яны бачылі, што трэба сцерці сляды з матацыкла.

Узялі пальчаткі, анучы і цалкам працерлі матацыкл бензінам.

Затым падкінулі яго пад гараж, каб сусед заўважыў, што матацыкл вярнулі. Пасля чаго пальчаткі і анучы хлопцы спалілі.

Хто ведае, дзе праваліўся іх геніяльны план, але следчыя Валожынскага РАСК даведаліся, хто злодзей.

– Узбуджаная крымінальная справа па артыкуле 205 (крадзеж), – расказала "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы Валожынскага РАСК **Дар'я Мікуліч**.

Наталля ТУР.

## Шукаюць зброю і боепрыпасы, якія незаконна захоўваюць

Маладзечанскае аддзяленне ўнутраных спраў на транспарце ўдзельнічае ў комплексным мерапрыемстве "Арсенал". Сёлета яго праводзяць ад 2 да 6 кастрычніка.

За незаконны абарот зброі і боепрыпасаў прадугледжаная адміністрацыйная і крымінальная адказнасць. Тыя, хто добраахвотна здасць зброю і боепрыпасы, вызваляюцца ад адказнасці.

Паведаміць пра зброю, выбуховыя рэчывы і прылады, якія незаконна захоўваюць, можна па нумарах **(8029) 863-70-46 ці 102.**

Маладзечанскае АУСТ.

ДА ДНЯ НАСТАЎНІКА

# Дома ў настаўніка больш за 600 відаў жывёл

МАЛАДЗЕЧНА

**Лаўрэат абласнога этапу конкурсу “Настаўнік года-2017”, кіраўнік метадычнага аб’яднання, настаўнік біялогіі і геаграфіі гімназіі-каледжа мастацтваў, кіраўнік навуковага таварыства вучняў “Эўрыка” – гэта ўсё Дзмітры Мікалаевіч Ганецкі.**





Фота з сацыяльных сетак.

Дзмітры Ганецкі так захапляўся прыродай, што перапісаў том кнігі “Жыццё жывёл” у чатыры агульныя сшыткі. У 2011 годзе ён адкрыў персанальную выставу ў школе (на фота). Сёлета яго работы выстаўлялі ў Нацыянальнай бібліятэцы.

Досвед яго працы як педагога складае без малога дваццаць тры гады. Напярэдадні Дня настаўніка гэты прафесіянал сваёй справы расказаў пра тое, як ён стаў прадметам любові сваіх вучняў.

У дзяцінстве Дзіма хацеў стаць машыністам або яго памочнікам. Любіў цягнікі, мог гадзінамі назіраць за святлафорамі. Але ў дарослым жыцці ад гэтай мары адмовіўся.

Вучыўся ў цяперашняй гімназіі №3. Паспяховасць была нядрэнная, аднак, як кажа сам Дзмітры, “да 8 класа трохі ленаваўся, але за апошнія два гады ўзяўся за розум”. Двойкі атрымліваў рэдка, і заўсёды за тое, што меў нестандартны погляд на выкананне хатняга задання.

### Як у школе лавіў ласку

Любімымі дысцыплінамі ў школе былі прыродазнаўчыя навукі. А вось з дакладнымі не вельмі ладзіў, яны падаваліся сумнымі і нецікавымі. Натхняла класны кіраўнік **Тамара Кузьмінічна Блін**, якая вяла біялогію. Самы першы досвед выкладання адбыўся ў школьныя гады: Тамара Кузьмінічна папрасіла правесці урок. І яму гэта спадабалася, і вучні былі ўражаныя.

У дзяцінстве маленькі Дзіма наведваў гурток малявання, а пазней – фотагурток. Маляваў для душы, а вось фатаграфаваў ужо на больш высокім узроўні. Прадметам яго работ было ўсё навокал: горад, сям’я, прырода. Аднойчы за творчыя дасягненні ўзнагародзілі паездкай у Калінінград.

Яшчэ адным яркім успамінам ён дзеліцца са шчырай усмешкай на твары:

– У дзявятым класе на адным з гурткоў па інтарэсах нам прынеслі маленькага драпежніка – ласку. У яе была траўмаваная лапка, і мы вырашылі дапамагчы. Вычысцілі клетку, а затым бачым, што звярок уцёк! Разам з хлопцамі бегалі па ўсёй школе, спрабавалі злавіць.

### Перапісваў энцыклапедыю ў сшытак

У падлеткавым узросце любіў чытаць кнігі Джэка Лондана, Сетана Томпсана, Бернарда Гржымека. З навуковай літаратуры ў школьныя гады чытаў шматтомнік “Жыццё жывёл”, другі том якога перапісаў у чатырох агульных сшытках.

З пятнаццаці гадоў пачаў калекцыянаваць марскіх і прэснаводных жывёл. Цяпер гэта калекцыя налічвае больш за 600 відаў і папаўняецца да гэтага часу. Экспанаты захоўваюцца ў педагога дома. Там іх можна знайсці практычна ўсюды: на сценах, у шафах, на працоўным стале. У Дзмітрыя Мікалаевіча ёсць свой спосаб рэлаксацыі: назіранне за паводзінамі жыўнасці ў акварыумах. А іх у яго два – адзін прэснаводны з разнастайнасцю рыб, другі салёны з марскімі зоркамі, актыніямі, рачкамі.

Паколькі яго другое захапленне было чыста біялагічным, а дома пастаянна жылі кошкі і сабакі, наш герой вырашыў стаць ветэрынарным доктарам. З выбарам педагагічнай спецыяльнасці вызначыўся ў Віцебскай дзяржаўнай акадэміі ветэрынарнай медыцыны. Займаўся ў навуковым гуртку пры кафедры заалогіі, яго навукова-даследчыя работы шмат разоў станавіліся пераможцамі ў сваіх намінацыях. Пасля заканчэння ВНУ восем гадоў там працаваў.

### Вучыць новым тэмам праз жарты

У гэтым годзе споўнілася 15 гадоў працы ў гімназіі-каледжы мастацтваў.

– Каб урок не быў сумны, я падбіраю нейкія жарты па кожнай тэме такім чынам, каб веды да вучняў прыходзілі больш весела, каб яны ўспрымаліся з усмешкай, – кажа Дзмітры Мікалаевіч.

Закранаючы адно з актуальных цяпер пытанняў, сцвярджае, што перайсці на 5-бальную сістэму ацэнкі для яго не складзе працы, так як яго самога вучылі па гэтай сістэме:

– Яна больш жорсткая, але больш рэальная, там ёсць выразныя межы.

> **Чым большая колькасць балаў, тым складаней выстаўляць ацэнку. Патрабаванні “расцягваюцца”, і межы паміж імі ўсё больш і больш сціраюцца.**

За сваю кар’еру Дзмітры Мікалаевіч можа ўспомніць шмат цікавага, але не любіць выдзяляць асобныя моманты, так як гэта парушае цэласнасць.

– Пакуль чалавек жыве – мазаіка збіраецца. Розныя вобласці мазаікі – розныя галіны дзейнасці чалавека. У маёй мазаіцы яшчэ досыць вольнага месца, і яно запоўніцца само. Пакуль будзеш падбіраць прыдатныя фарбы для карціны, наступіць восень, – кажа педагог.

**Мікіта АНДРЫЕВІЧ,**
**вучань гімназіі-каледжа мастацтваў Маладзечна.**



Кацярына Панчанка ў маладзечанскай дзіцячай паліклініцы. Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

# Нават самаму цяжкаму дзіцяці можна палепшыць жыццё

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечна стаў першым горадам, дзе Беларускі дзіцячы хоспіс рэалізуе новую праграму па рэабілітацыі цяжкахворых дзяцей.

Выязная праграма “Мабільная паліятыўная абіляцыя” працуе так: аўтамабіль з адмысловым абсталяваннем і спецыялістамі выязджае ў населены пункт на пяць дзён. За гэты час спецыялісты працуюць з дзецьмі з невылечнымі хваробамі, бацькамі, дактарамі. Сэнс абіляцыі – дапамагчы ці развіць неразвітыя навыкі, дапамагчы дзецям з групай інваліднасці прыстасавацца да жыцця, навучыць дарослых правільна дапамагаць ім.

Спецыялісты падбяруць індывідуальныя методыкі, якія падыходзяць для канкрэтнага дзіцяці. Сярод дзяцей, якім будуць дапамагаць па праграме, – хворыя на цэрабральны параліч, спінальна-мышачную атрафію і на іншыя неўралагічныя і метабалічныя хваробы. У гэтых дзяцей хваробы могуць праяўляцца, напрыклад, праз сутаргі, што з’яўляецца супрацьпаказаннем для вядомай рэабілітацыі. А ў межах праграмы абіляцыі распрацаваныя методыкі, якія могуць палепшыць якасць жыцця і дзіцяці, і яго блізкіх.

### Рэакцыі можна не дачакацца, а яна будзе

У панядзелак, 25 верасня, з маладзечанцамі сустрэліся фізіятэрапеўты праграмы **Кацярына Панчанка** і **Юры Абадзінскі**. Акрамя навучання прынцыпам абіляцыі, Кацярына і Юры плануюць за рабочы тыдзень дапамагчы 21 сям’і.

Кацярына падкрэсліла, што паліятыўныя дзеці бачаць, чуюць і разумеюць, трэба толькі падабраць да іх мосцік. Мэта праграмы – маленькімі крокамі ісці да зоны бліжэйшага развіцця праз прафілактыку ўскладненняў і аблягчэнне догляду.

На сустрэчы з боку бацькоў гучалі скептычныя заўвагі:

– Калі б ёй было 3-4 гадзікі, я за гэта ўсё ўчапілася б. А калі ёй 15... Такое цяжкае дзіця. Прыгожа гаварыць – гэта адно, а карміць, недасыпаць – абсалютна іншае. Калі яшчэ сям’я, муж, сын, трэба прыбраць і ўсё іншае.

– Тут кожная мама можа сказаць, што яе дзіця цяжкае, – адказала Кацярына. – Можна паспрабаваць. А калі казаць, што нічога не дапаможа, то нічога і не дапаможа.

Юры дадаў:

– Нават самаму цяжкаму дзіцяці можна палепшыць якасць жыцця.

Абілітолаг звярнула ўвагу, што, напрыклад, пры занятках лячэбнай фізкультурай варта выконваць практыкаванні з сэнсам: не проста цягнуць руку, а спрабаваць дацягнуцца да цікавай цацкі. Часам даводзіцца чуць, што ў дзіцяці зніжаны інтэлект, яно не цікавіцца цацкамі. Аднак на практыцы так кажуць бацькі, якія даўно не прапанавалі дзіцяці гуляць.

Кацярына прыгадвае дзетак 5 і 7 год, мамы якіх мянялі так і казалі. Пасля заняткаў з абілітолагам цікавасць да цацак з’явілася, дзеткі пачалі рухаць пальчыкамі. Варта разумець, што ў дзяцей з цяжкімі неўралагічнымі парушэннямі замаруджаная рэакцыя. Калі дарослы дамагаецца кантакту вачэй, яго можна не дачакацца, а ён усё ж такі будзе.

### Болю быць не павінна

У межах праграмы спецыялісты падтрымліваюць актыўнасць, дапамагаюць паказаць, як дзіця пакласці ў правільную позу. На цела такіх дзяцей уплываюць паталагічныя сімптомы, якія цягнуць у розныя бакі. І калі ісці за сімптомамі, мы атрымаем дэфармаванае дзіця, якое адчувае боль.

За працай з правільным пазіцыянаваннем можна пачынаць працу з прафілактыкай ускладненняў. Пасля працы ў праграме пацыент не адчувае болю і страху. Калі дзіця адчувае боль, ні пра якое развіццё не можа быць гаворкі.

У Беларусі каля трох тысяч дзяцей, якім патрэбная паліятыўная дапамога. Гэта падыход, які дазваляе палепшыць якасць жыцця пацыента і яго сям’і.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- ВАЗ-2121 НІВА. Т. (8-029) 2693528, 735044.
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- ДЭУ-Нубіра, седан, 1997 г.в, 1,6 бензін, добры стан, 3400 руб. Т. Лайф (8-025) 6048677.
- ДЭУ-Эксперa, 1995 г.в., Масквіч 412, 1991 г.в. Т. (8-01771) 24936, МТС 5509148, МТС 2768546.
- **ПЕЖО-5008, 2013 г.в., МІНІВЭН, З ГЕРМАНІІ. Т. (8-029) 6372633.***
- ФВ-Пасат В-3, 1993 г.в., ТД, універсал, чорны + зімовая гума, дыскі, рамяні. Т. Вэлком (8-029) 9303552.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- Аўто ў любым стане. Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, д. 9, кв. 56, 5 паверх, агульная плошча 27,6, жылая 16,9, цана дагаворная. Т. (8-01771) 27990, (8-029) 2534684 Ганна.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, новабудоўля. Т. (8-033) 6626858.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Машэрава, 2, 1/3 паверх. 35/19/11 кв. м з рамонтам. Тэрмінова! Т. (8-044) 4529416.*
- 2-павярховы цагляны дом у Вілейцы, з гаспадарчымі пабудовамі, 11,5 соткі зямлі. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,16 з добрым рамонтам.Т. (8-029) 1590102.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, еўрарамонт. Магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне на першым паверсе, плошча 31,4/42,7, без пасярэднікаў. Т. (8-029) 6188711.*
- 3-пакаёвую кватэру ў а.г. Залессе, 10000 руб. Т. (8-029) 6125469.*
- 4-пакаёвая кватэра палепшанай планіроўкі ў цэнтры Маладзечна, 103,5 кв.м, кухня 13,5 кв.м. Т. (8-029) 6462051.*
- Будынак нежылы ў Смаргонскім раёне, Вішнеўскі с/с, в. Малінаўка, 336,4 кв. м, 1,8027 га. Цана дагаворная. Т. (8-025) 9458763.
- Гараж у Вілейцы, вул. Незалежнасці. Т. (8-029) 5604815.*
- Дом 184 кв. м, 2 км ад Смаргоні. Усе пытанні па тэл. (8-029) 2053764, (8-029) 9658737.
- Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*
- Дом жылы ў Маладзечне па вул. Галіцкага, 2. Тэлефанаваць з 16:00 да 21:00. Т. Вэлком (8-029) 6091158.*
- Дом у в. Камарова Мядзельскага раёна. Т. Вэлком (8-029) 1707419.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом у вёсцы Няверы Мядзельскага раёна, 0,20 га. Т. (8-029) 6205966.*
- Дом у Вілейскім раёне. Т. (8-029) 7621019, (8-044) 5321975.*
- Дом цагляны ў вёсцы М. Запруддзе Валожынскага раёна, 0,25 га. Цана 24 000 руб, торг. Т. (8-029) 8730880.*
- Дом, 18 км ад Вілейкі. Тэрмінова. Т. (8-029) 8598747.*
- Зруб памерам 5,5 х 5,6 м, даўжыня 0,18 м. Цана 1400 рублёў. Т. (8-029) 3557654.*
- Паўдома ў Вілейцы, вул. Лаўрыновіча, 5. Т. МТС (8-029) 2852295.*
- Участак зямлі, 4 соткі, у в. Кардон. Т. (8-029) 7628080.

### ЗДАМ

- 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-0176) 733643.*
- 2-пакаёвую кватэру сям'і ў Вілейцы, раён завода "Зеніт". Т. Вэлком (8-044) 5763029, МТС (8-029) 2589381.*

# Чаму ў “Дзясятачцы” ўдзельнічаюць толькі ад 12 год?

**Такое пытанне задаюць бацькі некаторых школьнікаў, якія і хацелі б удзельнічаць у акцыі, але ўзрост пакуль не дазваляе.**

Справа ў тым, што “Рэгіянальная газета” мае ўзроставыя абмежаванні – ад 12 год. Адпаведную пазнаку вы зможаце заўважыць на першай старонцы выдання.

Таму і акцыю мы можам праводзіць толькі для той аўдыторыі, якая можа чытаць нашу газету. Больш юным вучням жадаем хварэць за старэйшых брацікаў ці сястрычак, сяброў ці суседзяў. Прыйдзе час, і вы таксама зможаце прыняць удзел у акцыі!

А калі ваш клас ці школа хацелі б, каб арганізатары акцыі прыехалі да вас, распавялі пра акцыю і газету, а можа паслухалі пра вашы перамогі і дасягненні, пішыце на адрас regionnews@rh.by.

### Як удзельнічаць

Поўны спіс правілаў ёсць у №37 і на сайце rh.by. Галоўнае зарабіць выдатную адзнаку, выразаць бланк і даслаць ці прынесці яго ў рэдакцыю.

Копіі бланкаў рэдакцыя не разглядае. Звесткі аб адной адзнацы могуць быць унесены толькі ў адзін бланк.

**Адрас рэдакцыі:**
222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518 (ГЦ “Тройка”, 5-ы паверх). Калі будзеце дасылаць поштай, зрабіце на канверце пазнаку “10-ка”.

**“Рэгіянальная газета”.**

### Бланк удзельніка акцыі “Дзясятачка” (№39)

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Імя, прозвішча | |
| 2 | Дата нараджэння | |
| 3 | Клас | |
| 4 | Школа | |
| 5 | Населены пункт | |
| 6 | Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі | |
| 7 | Прадмет, за які атрыманая адзнака | |
| 8 | Якую адзнаку атрымаў (“9” ці “10”) | |
| 9 | Дата атрымання адзнакі | |
| 10 | Імя, імя па бацьку і прозвішча настаўніка | |
| 11 | Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам | |
| 12 | Подпіс настаўніка | |

# Філіял ВУ “Маладзечнагаз” гатовы да зімы, а ВЫ?

**У рамках падрыхтоўкі газаразмеркавальнай сістэмы да асенне-зімовага перыяду 2017-2018 гадоў, Маладзечанскім вытворчым упраўленнем праведзеныя наступныя асноўныя віды работ:**

- заменены абсталяванне і арматура трох газарэгулятарных пунктаў, якія выпрацавалі нарматыўны тэрмін эксплуатацыі;
- зроблена комплекснае прыборнае абследаванне 110,52 км падземных стальных газаправодаў, у тым ліку 26,2 км па Вілейскім РГС, 9,1 км па Лагойскім РГС і 9,33 па Мядзельскім РГС;
- праведзенае тэхнічнае абследаванне поліэтыленавых газаправодаў на герметычнасць працягласцю 256,3 км, у тым ліку 49,2 км па Вілейскім РГС, 65,2 км па Лагойскім РГС і 18,45 па Мядзельскім РГС;
- выкананае сезоннае тэхнічнае абслугоўванне бытавога ацяпляльнага газавага абсталявання ў колькасці 11 912 адзінак, у тым ліку 1871 адз. па Вілейскім РГС, 1136 адз. па Лагойскім РГС і 1395 адз. па Мядзельскім РГС;
- выкананае поўнае тэхнічнае абслугоўванне бытавога газавага абсталявання ў колькасці 853 адзінак, у тым ліку 485 адз. па Вілейскім РГС, 86 адз. па Лагойскім РГС.

У параўнанні з іншымі відамі паліва, прыродны газ найбольш зручны ў выкарыстанні і найбольш экалагічны.

> Пры згаранні газу забруджванне атмасфернага паветра і навакольнага асяроддзя мінімальнае.

У нашых раёнах прыродны газ выкарыстоўваецца ў камунальных кацельнях для цеплазабеспячэння шматкватэрных жылых дамоў, у многіх прыватных жылых дамах, на прамысловых прадпрыемствах гарадоў і раёнаў.

Эканомнае расходаванне энергетычных рэсурсаў павінна стаць нормай жыцця для кожнага чалавека. Для рацыянальнага выкарыстання прыроднага газу варта прымяняць сучаснае газавае абсталяванне з больш высокім ККД, эфектыўнай сістэмай аўтаматыкі.

Пры выкарыстанні прыроднага і звадкаванага газу кожны спажывец павінны выконваць правілы карыстання газам у побыце, даць магчымасць праверыць стан дымавых і вентыляцыйных каналаў спецыялізаванымі арганізацыямі, своечасова праводзіць замену маральна састарэлага газавага абсталявання на сучаснае энергазберагальнае.

Для бесперабойнага газазабеспячэння жылых дамоў, камунальна-бытавых спажыўцоў абанент павінен своечасова ўносіць аплату за выкарыстаны газ па дзеючых тарыфах.

Газазабеспячэнскія арганізацыі са свайго боку пастаянна кантралююць рацыянальнае выкарыстанне прыроднага і звадкаванага газу, як выконваюцца правілы карыстання газам, своечасовую аплату за спажыты газ.

Згодна з дагаворам на забеспячэнне прыродным газам, газазабеспячэнская арганізацыя спыняе падачу газу спажыўцам, якія своечасова не заплацілі за спажыты газ і парушылі правілы карыстання газам у быце.

Кожны спажывец штодня павінны памятаць пра беражлівае і рацыянальнае выкарыстанне паліўна-энергетычных, матэрыяльных рэсурсаў, што немінуча адаб'ецца на якасці жыцця насельніцтва Рэспублікі Беларусь.

**Філіял ВУ “Маладзечнагаз”.**

УНП 100 008 077

# У Маладзечне зладзяць беларуска-нямецкі фотамарафон

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 22 верасня ў Беларусі пачаліся традыцыйныя тыдні Германіі.**

Іх праводзяць на працягу ўжо больш за дзесяць гадоў.

Сёлета мерапрыемствы тыдняў запланавалі да 31 кастрычніка.

У юбілейны год аднаўлення беларуска-германскіх дыпламатычных адносінаў Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія запрашае наведаць шматлікія мерапрыемствы ўсіх, хто хоча пазнаёміцца з культурай, мовай і грамадствам Германіі.

У рамках тыдня па многіх гарадах Беларусі правядуць выставы, кінапрагляды нямецкіх фільмаў, аўтарскія чытанні, семінары, нямецкамоўныя спектаклі.

У Маладзечне 30 верасня, у суботу, сумесна з пасольствам Германіі супрацоўнікі аддзела замежнай літаратуры раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча зладзяць фотамарафон "Дружба". Паўдзельнічаць могуць усе, хто любіць фатаграфаваць.

Сэнс марафону ў наступным. Удзельнікі за 12 гадзін робяць 12 фотаздымкаў па 12 тэмах.

Сюжэты для сваіх фотатвораў удзельнікі будуць шукаць, рухаючыся па вуліцах горада.

Таму арганізатары звяртаюць увагу на зручнае адзенне і абутак фатографаў.

Тэмы агучаць непасрэдна перад выкананнем заданняў.

Зарэгістравацца можна ў бібліятэцы як індывідуальна, так і камандай. Удзел у фотамарафоне бясплатны.

**Адрас бібліятэкі: вуліца Вялікі Гасцінец, 112-в-3, тэлефон 8 (0176) 74-72-91.**

**Праграма мерапрыемства**

10:00 – сустрэча ў бібліятэцы. Агучванне тэм 1,2,3.
10:00 – 13:00 – выкананне фотазадання
13:00 – сустрэча ў бібліятэцы. Агучванне тэм 4, 5,6
13:00 – 16:00 – выкананне задання
16:00 – 18:00 – выкананне фотазадання
18:00 – сустрэча ў бібліятэцы, агучванне тэм 7, 8, 9
18:00 – 22:00 – выкананне задання.
22:00 – 23:00 – адпраўка пісьма з фотаданнем на адрас арганізатараў.

28 кастрычніка ў 17:00 у бібліятэцы зладзяць фотавыставу "Freundschaft" ("Дружба") у фармаце фотасушкі.

Усе ўдзельнікі атрымаюць сувеніры. А тых, чые фотаздымкі пераможуць, арганізатары ўзнагародзяць каштоўнымі прызамі.

Аддзел інфармацыі.

**Даведка "РГ".** Фотасушка – вялікая фотавыстава, у якой прымаюць удзел усе, хто пажадае: і аматары, і прафесіяналы. Звычайна арганізатары выставы нацягваюць вяроўкі для бялізны і з дапамогай прышчэпак удзельнікі прымацоўваюць туды фотаздымкі. Пасля выставы фотаздымкі, якія спадабаліся, можна памяняць або забраць сабе. На фотасушках адбываюцца нефармальныя зносіны фатографаў, прафесіяналы даюць парады аматарам.






Фота lifeglobe.net

Нямецкі сабор на плошчы ў Берліне, збудаваны ў 18 стагоддзі.

# Няўсмешлівыя, ашчадныя і спагадлівыя:

## чым хлопцу з Валожына запомніліся немцы

ВАЛОЖЫН

**Першы раз у Германію валожынец Нікадзім Бельскі трапіў у 2001 годзе. Тады хлопчыку было пяць гадоў.**



Фота instagram.com

Нікадзім Бельскі на фоне Брандэнбургскай брамы ў Берліне.

Цяпер Нікадзіму 21. Ён студэнт. Шмат вучыцца за мяжой і падарожнічае. Яго старонкі ў сацыяльных сетках запоўненыя фотаздымкамі з розных краін свету: Галандыі, Францыі, Чэхіі, Партугаліі.

Аднак першыя дзіцячыя ўражанні пра Германію хлопец захаваў да сённяшняга дня. Хоць, па словах Нікадзіма, іх засталося не так шмат.

– Калі ўпершыню прыехаў у Германію ў 2001 годзе ў госці, запомнілася тое, што дзяцей, ужо даволі вялікіх, шасці-, сямігадовых, бацькі вазілі на вазках, – прыгадвае хлопец. – Мне пяцігадоваму было сорамна ехаць у дзіцячым вазку, хоць на той час мне толькі зрабілі аперацыю на нагу.

Яшчэ адно яркае ўражанне пяцігадовага хлопчыка – сабачыя фекаліі на кожным рагу ў нямецкіх гарадах. Аднак усё гэта было 16 год таму. Апошні раз Нікадзім ездзіў як турыст у Германію сёлета і ўжо не ўбачыў таго, на што некалі звярнуў увагу маленькім хлопчыкам.

### Натоўп немцаў ад натоўпу беларусаў адрознію адразу

Заўважыў, што немцы, як і большасць еўрапейцаў, вельмі спагадлівыя людзі. Заўсёды прыходзяць на дапамогу. З гэтым пытанняў няма.

Не было і асаблівых праблем з мовай. Па словах Нікадзіма, дамовіцца з людзьмі на вуліцы можна было нават па-руску.

А вось усмешку на твары ў немца заўважыць даволі цяжка, кажа мой субяседнік. Але ці так ужо часта ўсміхаюцца беларусы?

Цяпер шмат кажуць пра чысціню беларускіх гарадоў. Цікава было даведацца, як з гэтым справы ў Германіі. Па словах майго субяседніка, у месцах масавых гулянняў, вялікага збору людзей заўсёды чыста. А вось калі адысці ўглыб, карціна не заўсёды прыгожая.

Асаблівых адрозненняў у тым, як бавіць час беларуская і нямецкая моладзь, Нікадзім за час турыстычнай паездкі не заўважыў. Падобныя тусоўкі, напоі, заняткі.

Праўда, адзенне адрозніваецца. Маладыя людзі ў Германіі, па назіраннях Нікадзіма, апранаюцца больш з густам і акуратна. Кажа, што па адзенні натоўп немцаў адразу б адрозніў ад натоўпу беларусаў.

### А што наконт стэрэатыпаў?

Стэрэатыпнай нямецкай пунктуальнасці на сабе не адчуў. А вось у тым, што немцы вельмі эканомныя, пераканаўся.

На думку Нікадзіма, так адбываецца з-за таго, што ў Германіі ў параўнанні з Беларуссю вельмі дарагія камунальныя паслугі. Таму эканоміць жыхары Германіі проста мусілі навучыцца.

А ці спадабаліся валожынскаму хлопцу нямецкія дзяўчаты?

– Нямецкія жанчыны не падаюцца мне такімі прыгожымі, як славянскія, – прызнаецца Нікадзім. – У іх проста іншая, адрозная ад нашых дзяўчат, прыгажосць, якой я не разумею.

На адрозненне ў беларускай і нямецкай кухні асаблівай увагі хлопец не звяртаў. Кажа, асабліва не разбіраецца ў гэтым пытанні. Ды і мэты такой сабе не ставіў. Больш-менш, на выгляд, можа адрозніваць гатункі нямецкіх сасісак.

### Што немцы ведаюць пра Беларусь

Пра Беларусь у Германіі усё яшчэ ведаюць мала. Асабліва маладыя людзі. Часта ў кампаніі аднагодкаў Нікадзім мусіў распавядаць сваім нямецкім аднагодкам пра невядомую краіну, што знаходзіцца дзесьці паміж Расіяй і Польшчай.

У сур'ёзных размовах пра сваё мінулае немцы старэйшага пакалення часам згадваюць падзеі Другой сусветнай вайны. Па словах Нікадзіма, ён не раз чуў словы пра тое, што тая вайна – гэта вялікая памылка.

– Германія сёння прымае шмат бежанцаў, – кажа Нікадзім. – Мне здаецца, што такім чынам у нейкай ступені можна растлумачыць, што яны ўсё яшчэ адчуваюць сваю вінаватасць за развязванне Другой сусветнай.

Сёлета Нікадзім быў у Берліне. Пабачыў шмат славутасцяў. У тым ліку знакамітую Брандэнбургскую браму. А вось сувеніраў не набыў. З падобных паездак прывык весці фотаздымкі і ўражанні.

Аксана ЯРАШОНАК.

Маю права

> **Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.**
>
> Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# Пакуль чалавек патрэбны, ён не старэе

## Пра што гаварылі пенсіянеры і чыноўнікі ў рэдакцыі "РГ"

МАЛАДЗЕЧНА

**Сучасная танцпляцоўка. Побач зручныя лавачкі. Пенсіянеры танцуюць пад рытмы маладосці. Побач лётаюць іх унукі.**



Леў Чырвонцаў.



Аляксандр Фалей.



Мікалай Кот.



Анжэла Клінцэвіч.

Такую карцінку вольнага часу пенсіянераў бачыць жыхар Маладзечна **Леў Чырвонцаў**. Наколькі гэты вясёлкавы вобраз адпавядае рэальнасці. Што прапануе Маладзечна пенсіянерам? І чаго не хапае ім?

Каб адказаць на гэтыя пытанні, мы зладзілі ў рэдакцыі "круглы стол", на які запрасілі начальніка парку імя Перамогі **Аляксандра Фалея**, псіхолага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва **Анжэлу Клінцэвіч**, а таксама пенсіянераў **Мікалая Ката** з Трапалава і Льва Чырвонцава з Маладзечна.

### Леў Чырвонцаў: раней пра пенсіянераў клапаціліся прадпрыемствы. А цяпер?

Льва Чырвонцава бацька прывучаў да працы з маленства.

– Ён кожны дзень прымушаў мяне акучваць бульбу, – прыгадвае Леў Раманавіч. – Тады я злаваў на бацьку і толькі потым зразумеў, што такім чынам ён вучыў мяне працаваць.

І да пенсіі, і на пенсіі мужчына працаваў на такарным і свідравальным станку. Шмат стварыў рамак з дрэва для мастацкіх прац жонкі і дачок. У апошні час здароўе не тое, таму больш чытае. А яшчэ сам напісаў кнігу "Асколкі гісторыі: пра час і пра сябе".

– Зрабіў гэта для дзяцей і ўнукаў, – распавядае Леў Раманавіч. – Змест кнігі не зусім адпавядае афіцыйнай лініі, таму прыйшлося пашукаць выдаўца.

На думку Льва Раманавіча, праблема старых бацькоў і дзяцей існавала заўсёды ва ўсіх народаў. На поўначы старых пакідалі замярзаць. А ў азіятаў, наадварот, чым старэйшы чалавек, тым больш яму гонару.

У нашым грамадстве з вольным часам на пенсіі, лічыць Леў Раманавіч, пэўныя праблемы ёсць:

– Вось выйшаў чалавек на пенсію – і адразу зрабіўся непатрэбным. А раней пра сваіх пенсіянераў клапаціліся прадпрыемствы, – прыгадаў Леў Раманавіч.

Мужчына добра ведаў прадпрыемства "Модуль". Тады там было некалькі гурткоў мастацкай самадзейнасці. І былыя супрацоўнікі, хоць і сыходзілі на пенсію, працягвалі ўдзельнічаць у іх працы.

Да таго ж кіраўніцтва заводаў заўсёды запрашала пенсіянераў на ўрачыстыя сходы і канцэрты. А бліжэй да канца 1980-х пенсіянераў перасталі пускаць нават на прахадную.

Таму пытанне, чым заняць сябе на пенсіі, стала актуальным.

У "Рэгіянальнай газеце" Леў Раманавіч прачытаў матэрыял, дзе пенсіянер скардзіцца на танцпляцоўку ў маладзечанскім парку, і гэтага пенсіянера падтрымаў.

– Вы чулі, як называюць тое месца, дзе танцуюць сталыя людзі? – узрушаўся мужчына. – Скатабойня! Звярынец! А старым людзям трэба рухацца, трэба мець нейкія зносіны!

Да таго ж, па назіраннях Льва Раманавіча, у парку ўздоўж вуліц недастаткова лавачак, а пенсіянеры не заўсёды адолеюць нават і невялікую адлегласць, калі няма дзе прысесці адпачыць.

– Да мяне нават добры сябар не прыходзіць праз тое, што ў парку на яго шляху зусім няма лавак, каб прысесці адпачыць,– падзяліўся мужчына.

### Аляксандр Фалей: у парку дзеці і сталыя людзі – самыя ганаровыя госці

– Вы былі ў парку на танцах? – пачаў Аляксандр Фалей з пытання да Льва Чырвонцава.

Пачуўшы адмоўны адказ, сказаў, што ён гаворыць сам за сябе і распавёў, якім чынам у парку з'явіліся вечары адпачынку для сталых:

– Танцы для пенсіянераў з'явіліся таму, што я прыслухаўся да просьбаў людзей. А ўвогуле, мы цяпер працуем пад "Камунальнікам". І нашы абавязкі – гэта арганізаваць катанне на атракцыёнах, прыбраць і добраўпарадкаваць парк. Забавы, у тым ліку для пенсіянераў, у нашы абавязкі не ўваходзяць.

Самыя ганаровыя, жаданыя госці ў парку – гэта дзеці і сталыя людзі, лічыць Аляксандр Фалей. Таму па сваёй дабрыні, прыслухаўшыся да просьбаў, начальнік парку ўсё ж вырашыў зладзіць вечары адпачынку.

– Разумею, што няма ні добрага месца, ні спецыялістаў для такіх забаў. Але сталыя людзі вельмі прасілі, – прыгадаў Аляксандр Міхайлавіч. – І вы б бачылі, якія прыгожыя жанчыны прыходзяць на танцы, як яны танцуюць!

У маладзечанскі парк пачалі нават прыязджаць людзі з іншых гарадоў. Начальнік парку прыгадаў выпадак, як на дыскатэцы для сталых пазнаёміліся жанчына з Вілейкі і мужчына-італьянец. Доўгі час гэта пара разам хадзіла на танцы. А цяпер іх не відаць. Магчыма, з'ехалі ў Італію.

Начальнік парку за ўласныя грошы набываў дыскі са старымі песнямі і ладзіў дыскатэкі. Для яго, творчага чалавека, дастаткова было бачыць шчаслівыя вочы пенсіянераў і чуць шчырае "дзякуй".

Аднак усім усё падабацца не можа. Некаторыя пачалі выказвацца, што, займаючыся танцамі, начальнік не выконвае сваіх прамых абавязкаў. Знайшліся незадаволеныя і сярод наведнікаў дыскатэкі. Пачалі нават скаргі пісаць.

– Гэта падзякі ў нас неяк не вельмі заўважаюць, а скаргі адразу, – кажа Аляксандр Міхайлавіч.

Па словах начальніка парку, у яго былі вялікія планы. Хацеў знайсці магчымасці, каб збіраць пенсіянераў зімой, ладзіць дыскусіі, абмен досведам. Напрыклад, па пытаннях агародніцтва і дачы.

– Аднак нарэшце вырашыў, няхай з пенсіянерамі займаюцца спецыялісты – людзі, у якіх ёсць адукацыя і якія атрымліваюць за гэта грошы, – растлумачыў сваё рашэнне ўдзельнікам "круглага стала" Аляксандр Фалей.

Цяпер танцы ў парку праводзіць цэнтралізаваная клубная сістэма. 17 верасня скончыўся сезон, таму танцаваць сталыя людзі будуць у Палацы культуры чыгуначнікаў.

Пенсіянеры, на думку Аляксандра, заклапочаныя вольным часам з-за параўнальна невялікай пенсіі. Каб было ў сталых людзей дастаткова грошай, яны б не думалі, чым заняцца. Набылі б пуцёўкі – і паехалі падарожнічаць за мяжу, пажартаваў начальнік парку.

– Шануйце сябе, шукайце ў розных пачынаннях, не марнуйце сваё жыццё на пошук недахопаў ва ўсім і давайце дарогу маладым, няхай яны будуюць гэта жыццё і гэту краіну – пажадаў пенсіянерам Аляксандр Фалей. – А мы будзем да вас ставіцца з любоўю і павагай.

### Анжэла Клінцэвіч: звяртаюцца з тэмамі адзіноты і п'янства блізкіх

Псіхолаг цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва распавяла, як са сталымі людзьмі ў Маладзечне працуе цэнтр.

Такіх патрэбных сёння камп'ютарных курсаў тут няма. Прычына – грошы. Патрэбнае памяшканне, чалавек, які будзе выкладаць, і самі камп'ютары.

Аднак у цэнтры працуюць па-іншаму. Раней дзейнічаў клуб сталых людзей "Залатая восень". Цяпер яго месца заняў "Мудры ўзрост". У ім крыху больш за 30 чалавек.

З наведнікамі праводзяць гутаркі па здаровым ладзе жыцця, прафілактыцы суіцыду і п'янства. Ладзяць гутаркі з медыкамі.

Шмат сяброў клуба – цікавыя і творчыя асобы. Многім ёсць што расказаць пра сябе. Таму з дапамогай супрацоўнікаў цэнтра наведнікі ствараюць прэзентацыі, распавядаюць пра сваё жыццё і захапленні. Клуб збіраецца раз на месяц.

На працягу некалькіх месяцаў у цэнтры ладзілі праект "Школа прыгажосці".

Сталыя жанчыны і дзяўчаты-падлеткі разам вучыліся даглядаць сябе, рабіць макіяж. Давалі адна адной парады.

У цэнтры працуе тэлефон даверу. Самыя распаўсюджаныя тэмы, з якімі тэлефануюць сталыя людзі, гэта адзінота і п'янства блізкіх.

**У практыцы Анжэлы частыя выпадкі, калі ўжо дарослыя дзеці не працуюць, п'юць, забіраюць у бацькоў грошы, б'юць іх.**

Анжэла перакананая: такія выпадкі нельга хаваць. Варта выклікаць міліцыю, якая складзе пратакол і накіруе 40-гадовае "дзіця" на прымусовае лячэнне.

Па словах псіхолага, часам людзі паміраюць у хуткім часе пасля таго, як выйдуць на пенсію. Гэта з-за таго, што перастаюць адчуваць сацыяльную значнасць.

– Жанчыне ў гэтым плане прасцей, – заўважыла Анжэла. – Яна ўвесь час, і на пенсіі, думае пра тое, што трэба прыгатаваць ежу, прыбраць у хаце. А вось мужчынам цяжка.

На думку Анжэлы, з выхадам на пенсію ў людзей адкрываюцца новыя далягляды. У гэты час трэба абавязкова вучыцца нечаму новаму. Пакуль чалавек вучыцца, пакуль ён некаму патрэбны, не прыходзіць старасць.

### Мікалай Кот: вяду запісы надвор'я, займаюся агародам і вінаграднікам

Сябар клуба "Мудры ўзрост" Мікалай Кот "не парыцца", чым заняць сябе на пенсіі. З малых гадоў прывык працаваць. Бацькі ў яго не было, жыў з мамай-інвалідам, пасля ў дзіцячым доме.

На Маладзечаншчыне з канца 1960-х гадоў. Мае вялікую хатнюю бібліятэку, у якой каля 700 кніг.

Пенсіянер працуе на ўласным агародзе, вырошчвае вінаград і грэцкія арэхі.

На працягу 14 год кожны дзень двойчы запісвае надвор'е.

– Сёння да вас на "круглы стол" паехаў, таму надвор'е жонка запіша, – падзяліўся Мікалай Мікалаевіч.

Мікалай Кот – актыўны пенсіянер. Ён сябар клуба "Мудры ўзрост" і "Саюза палякаў у Беларусі". Ад цэнтра сацыяльнага абслугоўвання збіраецца ў паездку ў Арэхава-Зуева, каб падзяліцца жыццёвым досведам з іншымі пенсіянерамі.

І ўсё ж Мікалай лічыць, што актыўнасці яму бракуе. Каб у горадзе жыў, абавязкова б у хор ветэранаў запісаўся, а можа б, і на танцы схадзіў.

**Ксенія ДУРОВІЧ.**



# Год 2002: закрылі выцвярэзнікі, спалілі музей Багдановіча, усталявалі першыя банкаматы

PICJOKE.NET

**Мы працягваем гартаць юбілейныя падшыўкі "Рэгіянальнай газеты".**

Сёння прыгадаем, што цікавіла чытачоў газеты 15 гадоў таму.

А ў свеце ў гэтым годзе ў зварот увялі новую валюту – еўра.

Забілі зорку расійскага шансона **Міхаіла Круга**, пры сходзе ледніка знікла без вестак здымачная група **Сяргея Бадрова**. Еўрапейскім аўтамабілем года прызнаны "Пежо-307".

### 1. Новы гімн

У 2002 годзе ў Беларусі быў аб'яўлены рэспубліканскі конкурс на новы беларускі гімн.

Настаўнік з Ільі **Мікола Кутас** аднавіў тэкст гімна БССР на словы **М.Клімковіча**. Вось як бы гучаў гімн, калі б варыянт, які прапанаваў Мікола Кутас, выйграў:

*Люд Беларусі зведаў у скрусе*
*Горыч суровых, частых нягод.*
*Бітвы за волю, бітвы за долю*
*Нас гартавалі з году ў год.*
*Мы – беларусы, вось наша імя,*
*Праца і мір нам –*
*як сонца ўсход.*
*Гонар і Слава нашай Радзіме!*
*Слава табе,*
*наш свабодны народ!*

### 2. Заробак на картцы

У 2002 годзе "РГ" пісала, што аж 900 маладзечанцаў атрымоўваюць заробак па пластыкавай картцы. І ў горадзе працавалі шэсць кас, дзе можна было зняць грошы з карткі, а да канца 2002 года абяцалі ўсталяваць у горадзе два банкаматы! І з гэтага года ва ўнівермагу стала магчымым разліччыцца карткай.

### 3. ФК "Маладзечна-2000"

Спрэчкі пра маладзечанскі футбол, аказваецца, узніклі не год і не два таму. У 2002 годзе ФК "Маладзечна" прадстаўляў горад у вышэйшай лізе. А ўсё адно тэмай адной з апытанак была: "Ці патрэбны гораду футбольны клуб?". І людзі, якіх апытвалі на вуліцы, сказалі, што ФК "Маладзечна" – гэта адметнасць горада і быць ён павінны.

### 4. Дзень нараджэння МТС

Другі аператар мабільнай сувязі з'явіўся ў Беларусі ў 2002 годзе. Разам з гэтай навіной паведамлялася, што кошты на мабільныя тэлефоны вагаюцца ад 200 да 700 тысяч рублёў. Калі пералічыць на тагачасны курс долара, атрымоўвалася ад 100 да 350 долараў.

### 5. Будоўля года – Маладзечанскі Дом культуры

15 гадоў таму Палац культуры меў больш сціплую назву – Дом культуры. Дату яго адкрыцця прызначылі на 1 кастрычніка, а ў ліпені "РГ" пісала пра тое, што на будоўлі працуюць 600 чалавек і ў тэрмін паспрабуюць укласціся. А адчыніўся Палац культуры 17 кастрычніка.

### 6. Адкрыццё 14-й школы

Яшчэ адна маштабная будоўля адбывалася ў Маладзечне ў 2002 годзе. Будавалі сярэднюю школу №14. "РГ" піша: "Яе ўзводзяць 1106 чалавек. Працуюць у тры змены. Заўсёды дзяжурыць на будоўлі медсястра. У гэтыя спякотныя дні да яе нават чэргі выстройваюцца. Часцей за ўсё ціск падымаецца. Асабліва пакутуюць жанчыны. Рабочыя кажуць, што ім ужо псіхіятр патрэбны". Во як!

### 7. Птушыны рынак на Лібава-Роменскай

Свінкамі, трусамі і птушкамі на вуліцы Лібава-Роменскай гандлююць з пачатку ліпеня 2002 года. "Пакуль месца для гандлю няма, прадаюць жывёл з машын". Гэта ж трэба, якая стабільнасць, за 15 гадоў нічога не змянілася.

### 8. Гандлюеш семкамі – зарэгіструй ІП

Ад 1 жніўня 2002 года грамадзянам, якія гандлююць семкамі, трэба было зарэгістравацца ў якасці індывідуальных прадпрымальнікаў. Аднак тым, хто не адкрые ІП, таксама дазвалялася працаваць. Але з падаткам у месяц 25 еўра. Можа, таму гандлярак семкамі больш няма?

### 9. Згарэў музей у Ракуцёўшчыне

У канцы ліпеня 2002 года згарэў музей Максіма Багдановіча ў Ракуцёўшчыне. Тады лічылі, што гэта быў падпал, але вінаватых не знайшлі. Згарэла 270 экспанатаў пачатку 20 стагоддзя.

### 10. "Лысіна Паца"

У верасні ў "РГ" выйшаў артыкул у рубрыцы "Археалагічная сенсацыя". Тады на беразе ракі Вілія знайшлі камень, які з вялікай доляй упэўненасці можна было лічыць каменем "Лысіна Паца", з якім звязаная адна з самых папулярных легенд Вілейкі. "Калі Вілія была суднаходнай, камень уяўляў пагрозу для чаўноў і плытоў. Згодна з паданнем, вілейскі староста Пац высоўваўся з акна свайго палаца, збудаванага насупраць каменя, і папярэджваў аб небяспецы".

Дзе сёння той камень, публікацыі ў "РГ" замоўчваюць...

### 11. Абрабавалі рэдакцыю газеты

Абрабавалі рэдакцыю ў ноч з 11 на 12 кастрычніка 2001 года. А праз год галоўны рэдактар на старонках газеты пісаў: "Прайшоў год. Міліцыя не змагла знайсці злачынцаў. Хаця застаюцца спадзяванні на тое, што паглядзець у твары тых, хто той дажджлівай асенняй ноччу, азіраючыся, лез у акно рэдакцыі, мы яшчэ зможам. Мы яшчэ паглядзім у вочы тым, хто наводзіў зладзеяў і арганізоўваў дзёрзкі і нахабны напад на нашу рэдакцыю".

### 12. "Адрас – не дом і не вуліца, а арка ў Гелянове"

У 2002 годзе "РГ" пісала пра маладзечанца **Пятра Койру**, які ў 1948 разам з жонкай пераехалі ў жыць у арку.

"Сваю кватэрку яны купілі за 500 рублёў у шафёра дзяржбяспекі. Для параўнання, буханка хлеба тады каштавала 100 рублёў. У пакойчыку было адзінае акенца. У "спадчыну" шафёр пакінуў ім тазік і металічны ложак, пад які можна было паставіць чамадан. Пакой быў памерам 2,5х3 і вышынёй 2 метры".

### 13. Зніклі выцвярэзнікі

Распараджэннем Мінскага аблвыканкама ліквідавалі медвыцвярэзнікі па ўсёй вобласці. Тады, 15 гадоў таму, галоўныя дактары бальніц былі занепакоеныя тым, што гэта вымусіць адкрываць аддзяленні ў бальніцах. "П'яныя – не хворыя. Пераўтвараць бальніцу ў выцвярэзнік не дам", – гаварыў тады галоўны маладзечанскі доктар **Казімір Клыга**.

За 2002 год школы ў рэгіёне "мініравалі" тры разы. А ў Валожыне нехта распыліў газавы балончык у школе так, што давялося шпіталізаваць ажно 13 вучняў.

Наступны год 2007. Ці памятаеце вы яго падзеі?

**Наталля ТУР.**

● КАЛЯНДАР

## 29 ВЕРАСНЯ

**1794.** Нарадзіўся **Ігнат Ходзька**, польскі пісьменнік, мемуарыст. Жыў на тэрыторыі цяперашніх Вілейскага, Смаргонскага раёнаў.

## 30 ВЕРАСНЯ



**125 гадоў** з дня нараджэння **Зоські Верас** (1892 – 1991, сапр. Людвіка Савіцкая), беларускай пісьменніцы, публіцысткі, выдаўца, грамадска-культурнага дзеяча. Гісторык **Генадзь Каханоўскі** зацікавіўся постаццю прадзеда Людвікі **Ігната Кулакоўскага**, які яшчэ ў 1834 годзе ў пісьме на імя расійскага міністра асветы пісаў пра неабходнасць даць беларускаму народу адукацыю. Праўнучка захавала дыплом аб выбранні даследчыка беларускіх старажытнасцяў і педагога І. Кулакоўскага сябрам Навуковага таварыства ў Даніі. Ён меў гонар таксама быць сябрам навуковых таварыстваў у Вільні, Варшаве, Пецярбургу. Дзед Людвікі па матчынай лініі **Людвік Садоўскі** быў знатным пчаляром і садаводам, ён добра ведаў беларускую мову і карыстаўся ёю ў размовах з сялянамі. Бацька Людвікі, **Антон Сівіцкі**, быў родам з Гродна, скончыў Гродзенскую мужчынскую гімназію, называў сябе ліцвінам, ён шмат чытаў, любіў паэзію.

**1914.** Нарадзіўся **Даніла Міцкевіч**, беларускі хімік, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, сын Якуба Коласа. Памёр у 1996 годзе.

## 1 КАСТРЫЧНІКА

**80 гадоў** з дня нараджэння (1937) **Андрэя Мдзівані**, кампазітара, педагога, народнага артыста Беларусі.

## 4 КАСТРЫЧНІКА

**1582.** У Рэчы Паспалітай уведзены грыгарыянскі каляндар.

## 5 КАСТРЫЧНІКА



**1872.** У вёсцы Малі (Астравецкі раён) памёр **Іосіф Гашкевіч**, дыпламат, мовазнаўца, даследчык Японіі і Кітая, натураліст. Пахаваны ў Астраўцы, дзе ўстаноўлены яму бюст. У Вільні пахаваны яго сын, **Іосіф Іосіфавіч**.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# На "Доме-2" каханне не знайшоў: віляйчанін – пра мадэльны бізнес і пра ўдзел у ток-шоу

ВІЛЕЙКА

**Калі вілейскі адзінаццацікласнік Аляксандр Коршыкаў заканчваў родную школу №3, першакласнікі зрабілі для выпускнікоў гульню-прадказанне. Выцягнуўшы скручаную паперку, хлопец прачытаў "Ты з'явішся на вокладцы часопіса".**



Фота забяспечанае Аляксадрам КОРШЫКАВЫМ.

Віляйчанін Аляксандр Коршыкаў здымаўся для брэндаў беларускага і замежнага адзення.

Дзіцячая гульня нібы прадвызначыла жыццёвы шлях віляйчаніна. Не, Аляксандр не кінуўся адразу на акцёрскі факультэт. Выбар будучай прафесіі быў даволі прагматычны. Хлопцу падабаліся навукі, асабліва хімія. Хацелася праявіць сябе менавіта ў ёй.

Таму, добра здаўшы тэставанне, Аляксандр пасля школы ў 2007 годзе паступіў у БДТУ на факультэт хімічнай тэхналогіі і тэхнікі. Мама Сашы працавала інжынерам і была задаволеная, што сын працягне справу. Са свайго класа хлопец толькі адзін паступіў у ВНУ на бюджэтнае аддзяленне.

## У Вілейцы не бачыў перспектыў

Заставацца ў Вілейцы і вяртацца туды пасля вучобы Саша не планаваў. Словы "У сталіцу!" былі як хваля, як брэнд паспяховасці. Мінск віляйчанін успрымаў як старт на бегавой дарожцы.

У родным горадзе малады чалавек не бачыў перспектывы для таго, каб атрымаць добрую адукацыю і працу. Хаця Вілейку ў нашай размове субяседнік згадваў цёпла.

– Наша сям'я жыла ў Вілейцы ля хлебазавода, – прыгадвае Саша. – Дзядуля быў дырэктарам гэтага прадпрыемства і побач пабудаваў дом для сваіх дзяцей і ўнукаў. Тут заўсёды раслі кветкі, якімі займалася і цяпер займаецца мама.

Вілейскае дзяцінства Аляксандра прайшло ў хлапечых гульнях, вынаходніцтве розных небяспечных хлапушак-дымавух.

Зімой былі лыжы і санкі. Летам – рыбалка на Вілейскім вадасховішчы, язда на ровары, потым – мапедзе, а яшчэ пазней – на матацыкле:

– У 16 год мне бацькі набылі матацыкл "Ява" колеру "хамелеон", – успамінае Саша. – Ён быў адзін з самых класных у Вілейцы. У 16 год я здаў на правы на катэгорыю "А" і на матацыкле вазіў дзяўчат на дыскатэку.

## Мама чакала ад сына ўздыму па кар'ернай лесвіцы

Першыя два гады студэнцтва, па словах мужчыны, былі асабліва цяжкімі. Хімію я любіў, прыгадвае Саша, а вось да вышэйшай матэматыкі любові не было зусім.

Тым не менш, віляйчанін скончыў ВНУ і па размеркаванні трапіў на адно з мінскіх прадпрыемстваў. Працаваў там інжынерам, "прасоўваў" у калектыве розныя спартыўныя мерапрыемствы, бо спорт любіў заўсёды, яшчэ са школы.

– Мама чакала ад мяне ўздыму па кар'ернай лесвіцы, – прызнаецца мой суразмоўца.

**І сапраўды, за два гады маладому інжынеру не раз прапаноўвалі добрыя пасады. Але тут Саша адчуў, што трэба нешта мяняць. І… сышоў у мадэлі.**

Мадэльным бізнесам мой субяседнік зацікавіўся яшчэ тады, калі быў студэнтам-першакурснікам. У 18 год некалькі месяцаў навучаўся на мадэльных курсах у педагагічным універсітэце ў Мінску. Тут вучыўся хадзіць па подыуме, трымаць добрую паставу.

На самым пачатку Аляксандр гэтым не зарабляў. Шукаў цікавыя праекты, якіх магло быць да дзесяці на месяц, і крэатыўных фатографаў. Вялікіх кантрактаў з мадэльнымі агенцтвамі і школамі не заключаў.

За час здымак напрацаваў сабе добрае партфоліа – набор прафесійных здымкаў мадэлі ў розных ракурсах. Былі фоткі на вуліцы і ў памяшканні, на пляжы і спартыўнай зале.

Па словах Аляксандра, добра калі на такіх фотаздымках мужчына паказвае торс, калі адлюстроўваюцца пачуцці і эмоцыі. Партфоліа Аляксандр лічыць пропускам у мадэльны бізнес.

Бацькі яшчэ не вызначыліся, як адносіцца да заняткаў сына. Напачатку ўвогуле не разумелі яго. Гэта іншыя людзі, пакаленне з іншым мысленнем, перакананы Аляксандр. Па словах Сашы, бацькі больш чым ён сам заклапочаныя яго будучыняй.

Сына бачаць рэдка. Пераважна размаўляюць па скайпе. Сёння больш-менш атрымалася прыйсці да паразумення.

## Бяруць і лысых, і барадатых, і худых

– Ці ёсць нейкі асабліва папулярны тыпаж мадэлі? – пытаюся ў Аляксандра.

– Гэты тыпаж цяжка вызначыць. Цяпер свет такі разнастайны. На подыуме не любяць сумных, а любяць неардынарных. Таму тут вітаюцца абсалютна розныя людзі: з барадой, з татуіроўкамі, лысыя, дыстрафічна худыя, людзі нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі. На фотаздымкі любых мадэляў можна знайсці попыт.

Дзяўчатам, па словах Аляксандра, у мадэльным бізнесе крыху лягчэй. Іх больш здымаюць: прыгажуні рэкламуюць аўтамабілі, пазіруюць на выставах, іх часцей здымаюць для вокладак часопісаў. Аднак сярод мужчын-мадэляў менш канкурэнцыі.

Багаты "спіс" здымак і ў Аляксандра. Яго здымалі для брэндаў беларускага і замежнага адзення, для буйнога гандлёвага цэнтра ў Мінску і прадпрыемства пасцельнай бялізны, для сеткі гатэляў і фірмы беларускага трыкатажнага адзення, часопісаў. Білборды з яго тварам вісяць па ўсёй Беларусі.

І не толькі. Неяк сябар, які быў у Сібіры, расказаў, што бачыў яго на білбордах і ў часопісе. Гэта былі здымкі для ювелірнай кампаніі.

Перад здымкамі ў праграме "Дом-2" Саша працаваў у Інданезіі. Для рэкламы буйной чайнай кампаніі лётаў над хвалямі на флайбордзе – спецыяльнай дошцы, якая рухалася дзякуючы магутнай плыні вады.

Быў невялікі досвед здымак для серыяла "Вяртанне Мухтара".

## З касметыкі – зубная паста і мыла

– З вашай працай вельмі важная добрая спартыўная форма. Як падтрымліваеце яе?

– Спорт любіў з дзяцінства. Добрымі спартсменамі заўсёды былі бацькі. Мама займалася лёгкай атлетыкай, тата – тым, што цяжэй.

Вучнем Саша выступаў на розных спаборніцтвах за трэцюю школу і за горад. Па словах мужчыны, на той час спартсменаў у школе рыхтавалі не вельмі добра, таму нейкіх поспехаў дасягаў дзякуючы ўласнай працы.

Займаўся рознымі відамі спорту. Найбольш доўга пратрымаўся ў дзюдо, армрэслінгу і самба. Па ўсіх трох відах удзельнічаў у чэмпіянатах рэспублікі.

Цяпер для заняткаў спортам Саша не ходзіць у спартыўную залу. Займаецца бегам, адціскаццем, ёгай. Плануе нават сысці з мадэльнага бізнесу, арганізаваць цэнтр навучання ёгі і выкладаць там і спорт, і псіхалогію, і філасофію.

– А дэкаратыўная касметыка мужчыну-мадэлі патрэбная?

– Ведаю, што многія карыстаюцца ёй. Для мяне касметыка – гэта толькі крэм пасля галення, зубная паста і мыла. Часам лак для валасоў, бо цяпер у мяне доўгая прычоска.

У адзенні Аляксандр не ганіцца за модай. Любіць тое, што зручна. Паважае класіку, часам спартыўны стыль.

Цяпер спрабуе сябе ў простай ежы, вегетарыянстве. Хачу зліцца з прыродай, кажа мой субяседнік. Вакол нас усё зялёнае, значыць, і есці трэба тое, што зялёнага колеру.

## На "Доме-2" паводзіў сябе не так, як чакалі

Месяц таму 28-гадовы Аляксандр Коршыкаў вярнуўся з Масквы, са здымак праграмы "Дом-2". Паўдзельнічаць яму прапаноўвалі яшчэ паўтара года назад. Але тады было шмат іншых спраў, прызнаецца Саша.

Ды не так даўно прадзюсар з Кіева зноў знайшоў майго субяседніка і прапанаваў паўдзельнічаць. На гэты раз Аляксандр палічыў, што калі жыццё прапаноўвае нейкія змены – значыць, гэта знак. Паслухаў уласную інтуіцыю і пагадзіўся.

Яму купілі білет, і, пакінуўшы працу ў Інданезіі, Саша апынуўся ў Маскве. Першы раз на такі працяглы тэрмін.

Тыдзень Саша быў на тэлеканале ТНТ. Кажа, шмат пісалі сябры. Прычым рэакцыя ў іх была розная. Нехта ледзь не зайздросціў, што Аляксандр трапіў на такую крутую праграму, а нехта не разумеў, як ён мог так "апусціцца".

Асаблівага негатыву на "Доме-2" Саша не адчуў. Так, тут не было асаблівай "духоўнасці", але і такі досвед патрэбны, перакананы мой суразмоўца.

Па словах Сашы, на праграме ён паводзіў сябе не так, як чакалі арганізатары. Не іграў "на камеру", быў самім сабой. Можа, крыху нават саромеўся.

Любоўных адносінаў не завёў, бо не знайшоў там "свайго" чалавека, прызнаўся Аляксандр.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# “Пасля стрыжак сабакі не выжываюць, і мы з мужам ядзім іх на вячэру”

МАЛАДЗЕЧНА

**Так аднойчы на навязлівыя пытанні пра тое, ці не шкодзіць стрыжка сабакам, давялося адказаць Ірыне Жаркевіч, грумеру з Маладзечна.**

– Сабак абавязкова трэба стрыгчы прыкладна раз на тры месяцы. Па-першае, гэта пазбавіць гаспадара ад лішняй поўсці ў кватэры, па-другое, сабаку самому будзе лягчэй, а патрэцяе, гэта проста прыгожа.

Грумер – гэта “сабачы” цырульнік. Зрабіць стрыжку, пачысціць гадаванцу вочы і вушы, па-моднаму выбрыць узор на каце ці сабаку, ці нават зрабіць тату бліскаўкамі – гэта ўсё ўмее рабіць і робіць Ірына.

Жанчына займаецца грумінгам амаль два гады.

– Пачалося ўсё з дэкрэтнага адпачынку. Я да яго працавала праваднiцай. Вядома, з малым дзіцем больш на гэту работу я выйсці не магла. Стала шукаць нейкія курсы, выпадкова спадабаўся груминг. Успомніла, што ў дзяцінстве марыла стаць цырульнікам, вось і стала.

Часцей за ўсё Ірыне даводзіцца наводзіць прыгажосць ёркшырскім тэр’ерам.

– Не таму, што яны самыя калматыя, а таму, што яны вельмі распаўсюджаная парода. У апошні час дадаліся шпіцы, шы-тсу.

У сярэднім стрыжка ёрка займае 2-3 гадзіны.

– Трэба ўлічваць яшчэ характар сабакі. Чым раней гаспадары прыводзяць сабак на стрыжкі, тым больш спакойна пасля вядзе сябе гадаванец у цырульніка на прыёме.

Быў у Ірыны выпадак, калі на стрыжку прывялі двухгадовага сабаку.

– Ён увогуле не разумеў, што з ім робяць. Скавытаў, вырываўся, кусаўся. Таму я раю гаспадарам прыводзіць на гігіенічную стрыжку, пачысціць вушкі, вочкі сабачку, калі яму паўгода, каб ён прывыкаў да таго, што наведванне цырульніка – гэта не балюча.

Здаралася ў Ірыны і такое, што сабака кусаўся.

– Бывала. А вось магу вам свой фартух паказаць. Ён увесь у слядах ад лапаў аднаго пудзеля. Гаспадыня папярэдзіла, што яе сабака вельмі актыўна праяўляе любоў і пяшчоту. І вось стрыгу. Як толькі я спынілася на хвілінку, той пудзель скакаў на мяне, лізаў, абдымаў лапамі.

Грумінг – занятак не танны. Каб падстрыгчы аднаго сабаку, трэба машынка, да яе некалькі нажоў, некалькі расчосак, пухадзёрак.

Машынка, да прыкладу, каштуе 150 долараў. Нож да яе – 50.

– Трэба набываць і наморднікі – на той выпадак, калі гаспадар забудзецца ўзяць яго з сабой. Стол для стрыжкі павінны быць асаблівы, са штатывам.

Акрамя сабак, у стрыжках маюць патрэбы і каты. А вось трусікаў стрыгчы нельга ні ў якім разе.

– Быў выпадак, калі жанчына прасіла мяне падстрыгчы трусіка. Я адразу адмовілася, бо ў іх шкурка быццам папера, вельмі лёгка параніць. У трусікаў трэба шчыпаць поўсць. І вось тая жанчына пасля звaніла і скардзілася, што яе гадаванца ўсё ж падстрыглі, а ён тую працэдуру не перажыў.

### Цяжэй за ўсё працаваць з тымі, хто просіць падстрыгчы жывёлу “як-небудзь”

– У кожнага майстра, – расказвае Ірына, – цэлы галаўны боль, калі гаспадары жывёл прыносяць раздрукаваны здымак з інтэрнэта і просяць гэтак жа падстрыгчы іх сабаку ці ката. Прытым, бяруць фоткі відавочна адфаташопленыя. Ім пачынаеш тлумачыць, што трэба ўлічваць пароду жывёлы, асаблівасці яго поўсці.

Модным у апошні час стала рабіць гадаванцу тату бліскаўкамі.

– Вядома, гэта бяспечна для здароўя гадаванца. У мяне самой кот пароды сфінкс, дык на ім тату не трымаецца, скочваецца. Трэба, каб мінімальная была поўсць.

Самыя папулярныя сюжэты тату для сабак – лапкі, зорачкі, кветачкі, матылькі.

Больш над сабакамі, як ні дзіўна, трасуцца мужчыны.

– Для жанчын, напэўна, наведванне салонаў рэч звычайная. А вось мужчыны, сапраўды, радуюцца новай прычосцы свайго гадаванца як дзеці. Ой, часта даводзіцца чуць ад мужчын: “А якія ў нас лапачкі, а які прыгажун!”

**Сярэдні кошт стрыжкі сабакі – 20 рублёў.**

Ірына прызнаецца, што спецыялісту-грумеру даводзіцца ўвесь час вучыцца, наведваць выставы і майстар-класы.

– Ведаеце, калі тэлефануюць і пытаюцца, ці змагу я падстрыгчы брусельскага грыфона або бедлінгтана-тэр’ера, я задумваюся, што гэта ўвогуле за парода. Таму вучыцца трэба заўсёды. Вось не так даўно сказала мужу, што хачу пайсці на курсы хэндлераў. Муж адказаў: “Канешне, ідзі”. А потым дадаў: “А што гэта?”.

А гэта спецыяліст, які рыхтуе сабаку да выставы. Вось як.

**Наталля ТУР.**
**Фота забяспечанае Ірынай ЖАРКЕВІЧ.**



Ірына Жаркевіч больш любіць сабак кароткашэрсных парод. На здымку з таксай Адай.





Тату бліскаўкамі на поўсці сабакі. Лапкі – самы часты ўзор, які просяць зрабіць гаспадары. Кот пароды мэйн-кун пасля стрыжкіператварыўся ў льва.

# Кот, якога шукалі ўсім Маладзечнам, знайшоўся

МАЛАДЗЕЧНА

**Два тыдні запар у нашай газеце выходзіла аб’ява пра тое, што гаспадары шукаюць свайго ката.**

31 жніўня ён выпадкова выйшаў з кватэры і згубіўся. Гаспадар гатовы быў заплаціць за яго ўзнагароджанне, або нават выкупіць у таго, хто, магчыма, забраў ката сабе.

І вось амаль праз месяц у сацыяльных сетках з’явілася наступная інфармацыя, напісаная ад імя ката:

– Я знайшоўся, я жывы і зноў дома.

Мы вырашылі запытацца ў гаспадыні “вандроўніка”, якім чынам удалося вярнуць ката дадому.

**Святлана Літвінава** адказала:

– Ката знайшлі ў падвале суседняга дома, як ні дзіўна, хоць раней і заглядвалі туды, і ў дварах яго ніхто не бачыў.

Гаспадары расказалі, што падчас пошукаў адгукнулася шмат людзей, разоў пяць дадому прыносілі розных падобных катоў. Многія пісалі ў сацыяльных сетках, што бачылі падобнага ката ў раёне.

Ката не было дома амаль тры тыдні.

– Пасля сваіх вандровак, ён адчувае сябе адносна нармальна, адыходзіць ад стрэсу, увесь час “расказвае” нам, як ён перажываў.

**Наталля ТУР.**



● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

# Вырашыце задачу з падвойным шахам і выйграйце падарунак

**У мінулым выпуску я закрануў тэму ўзаемадзеяння. Лічу, што яна самая важная ў вывучэнні шахмат. Працягнем.**

У шахматах для вывучэння вельмі мала чытаць толькі мае артыкулы. У шахматы трэба гуляць.

**Прыводзьце дзяцей у шахматную школу, заходзьце на бліц-турнір кожную нядзелю ў 12:30 у шахматны клуб у Маладзечне па вуліцы Забэйды-Суміцкага, 2, рэгіструйцеся на бясплатных гульнявых шахматных парталах і гуляйце! На беларускім сайце chess.by ёсць шмат інфармацыі і бясплатных шахматных урокаў.**

Кожны здольны засвоіць элементарныя правілы і хады шахмат за пару гадзін. І хай пра вас не будуць казаць "ён вучыцца гуляць у шахматы", а "ён ужо ведае, як ходзіць пешка. Цяпер будуць вучыць, як ходзіць іншая пешка".

Ходзяць і такія анекдоты:

– У вас сабака разумны?

– Хто? Гэты? Дурань! Ён мне ўчора 2:4 у шахматы прайграў...

Заўсёды трымайце баланс. У жыцці павінна быць крыху шахмат, але не да такой ступені:

Тэлефонны званок. Сара здымае слухаўку:

– Ля тэлефона!

– Сарачка, я сёння затрымаюся! Мы з Абрамам крыху пагуляем у шахматы.

Сара ўбок, напаўголаса:

– Абрам, ты чуеш, ён гуляе з табой у шахматы!

І напрыканцы: задача №96. Абедзве белыя фігуры пад боем – ладдзю на а7 атакуе чорны ферзь з b6, а слана d7 атакуе конь f8. Аднак... ім дапамагае і белы кароль на f5, і правіла падвойнага шаха, пры якім абароны няма.

За чорных мат ставіцца таксама пры актыўным узаемадзеянні ўсіх чорных фігур: ферзя b6, ладдзі E8, слана е5, каня f8, караля f7. Кожная фігура выконвае пэўную задачу.

Паспрабуйце для сябе дакладна вызначыць, якую задачу выконвае кожная чорная фігура? Можаце ўсё гэта паспрабаваць запісаць, распісаць і адправіць у рэдакцыю на адрас: region-news@rh.by. Першы правільны адказ будзе прэміраваны кнігай "Мат у адзін ход" з аўтографам аўтара.

З вамі быў я, Віталь Качаткоў. Добрых выхадных і поспехаў у вывучэнні шахмат.



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**





Заўзятары ФК "Маладзечна" ў суботу не толькі паглядзяць матч любімай каманды, але і пачастуюцца семкамі. Фота з архіва Наталлі ТУР.

# ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4" раздасць заўзятарам больш за 100 кілаграмаў семак

МАЛАДЗЕЧНА

**Палузгаць сланечнікавай халявай ад каманды можна будзе 30 верасня падчас дамашняй гульні ФК "Маладзечна" супраць каманды з Клецка.**

Такім чынам футбольны клуб разам з гледачамі адсвяткуе Дзень Кузьміча.

Пра тое, што такое Дзень Кузьміча, распавёў дырэктар ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4" **Андрэй Іваненка**:

– Кузьміч – гэта зборны вобраз тыповага заўзятара. Ён лепш за ўсіх разбіраецца ў футболе, ведае лепш за трэнера, што трэба рабіць камандзе. У яго на ўсё сваё асаблівае меркаванне. Я, вядома, іранізую. Бо Кузьмічы ставяцца да гульні, як да спосабу адпачыць з сябрамі пад піва і семкі. Кузьміч як імя агульнае даўно існуе ў футболе, а вось Дзень Кузьміча яшчэ ніхто не святкаваў. Вось мы і вырашылі арганізаваць свята, прысвечанае класічнаму футбольнаму заўзятару.

Традыцыйны атрыбут Кузьміча – семкі. Менавіта іх будуць раздаваць гледачам у канцы гульні.

Чаму ў канцы? Ды таму, каб прыбіральшчыцам на стадыёне не ствараць праблем.

Павінна хапіць усім, паколькі ў планах у арганізатараў раздаць больш за 1000 пачкаў.

**Уваход на матч бясплатны. Пачатак матча ў суботу, 30 верасня, у 14 гадзін.**

## Слоўнік заўзятара

Калі вы адносіце сябе да Кузьміча, ходзіце на футбол проста правесці час і паглядзець на гульню, і часам не разумееце, пра што гавораць фанаты або футбалісты, вам у дапамогу наш слоўнічак тыповых футбольных выразаў.

**Акакій** – футбольны заўзятар з завышанай ганарлівасцю. Такія заўзятары звычайна любяць паўтараць фразу: "Паверце мне, я знаёмы з сітуацыяй знутры".

**Банка** – 1. Гол, 2. Лаўка запасных, 3. Вароты. Напрыклад: забіць банку – забіць гол, сядзець на банцы ( так, па-беларуску правільна сказаць слоік, але ні разу не даводзілася чуць, каб нехта сядзеў на слоіку) – сядзець на лаўцы запасных, стаяць на банцы – гуляць на пазіцыі варатара.

**Балабон** – каментатар.

**Гарчычнік** – жоўтая картка.

**Градка** – строй фанатаў на сектары.

**Дванаццаты гулец** – заўзятары, якія шчыра падтрымліваюць сваю каманду.

**Жаба** – фанат, які памяняў клуб.

**Жывот** – Кузьміч поўнага целаскладу.

**Карэ** – чатыры галы, забітыя адным гульцом на працягу аднаго матча, тое ж што і покер.

**Махала** – бакавы суддзя на футбольным матчы.

**Пан** – трэнер.

**Пендаль** – пенальці.

**Пента-трык** – пяць галоў, забітых адным гульцом на працягу аднаго матча.

**Перфоманс** – прадстаўленне, шоу.

**Ровар** – удар праз сябе ў падзенні.

**Ружа** – шалік з атрыбутыкай клуба.

**Супарцёр** – фанат, які падтрымлівае сваю каманду перфомансам.

**Сухар** – матч, у якім варатар не прапусціў гол.

**Шпакоўня** – каментатарская кабіна.

**Шыза** – актыўная падтрымка каманды на трыбуне.

**Ярмак** – фанат, які здзейсніў знакаміты сярод яго таварышаў выезд.

**Наталля ТУР.**

# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Дакумент, які пацвярджае тыя або іншыя правы і паўнамоцтвы прад'яўніка.

3. У статыстыцы – велічыня, што знаходзіцца ў сярэдзіне рада велічынь, размешчаных па ўзрастаючай або сыходнай лініі.

4. Расціранне цела з мэтай паляпшэння кровазвароту, абмену рэчываў у тканках.

5. Назва акцыі "РГ" для школьнікаў, якая ідзе цягам гэтага навучальнага года.

9. Сяргей Грахоўскі: "Не чулі мы пра шлюбныя палацы, Не бачылі ні кветак, ні фаты, Ты да мяне забегла пасля працы І неабходнай стала назаўжды".

11. Населенае месца; месца, дзе жывуць людзі; паселішча.

14. Хуткі і бесперапынны рух у розных напрамках.

15. Паводле літоўскай легенды, жыў рыбак Касціціс. Паплыў ён далёка ў мора, і перад ім паўстала прыгажуня Юратэ, дачка марскога цара. Раз'юшыліся богі на Юратэ, якая пакахала простага рыбака, і разбурылі яе чароўны замак. З таго часу і знаходзяць на марскім беразе аскепкі сцен замка. З чаго той замак быў зроблены?

16. Негусты аўсяны кісель.

18. Адзін рух пэндзля пры накладанні фарбы, а таксама слой фарбы, накладзены такім спосабам.

20. У некаторы час гэтым рэчывам шырока карысталіся медыкі і называлі яго "алей святога Квірына" ці "алей Сенэкі".

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Мінерал, разнавіднасць агату, у якім чаргуюцца слаі чорнай і белай афарбоўкі.

3. Тое, што створанае ўяўленнем, фантазіяй.

5. У гонар гэтага дрэва ў верасні астраўчане зладзілі свята.

6. Пра тое, што яны з'явіліся ў вілейскіх дзяржаўных крамах, пісала "РГ" у 1997 годзе на першай старонцы.

7. Рух рукі, галавы, які суправаджае або замяняе чалавечую мову.

8. Якое славянскае слова пайшло ад "змяркацца", "змрок", хаця першапачаткова азначала "чорная хмара".

10. Прозвішча вядучага інтэлектуальнай гульні "Розум-шоу" ў Маладзечне.

12. Уральскі прамысловец падарыў Пятру I серабрыста-белы абрус і сеў з ім абедаць. Нібыта выпадкова разліў суп і чырвонае віно. Пётр вельмі расстроіўся, а госць кінуў абрус у агонь і выняў цэлым і чыстым. З чаго быў зроблены абрус?

13. Скручаная вузкая палоска тканіны, шнурочак для завязкі.

14. Колер шэрсці ў жывёлы і пер'я ў птушак.

16. Мужчына, які мае нявесту; будучы муж нявесты; суджаны.

17. Частка расліннага ці жывёльнага арганізма, якая выконвае пэўную функцыю.

18. Узор, схема, звычайна ў паменшаным выглядзе; мадэль.

19. Першая друкаваная работа па матэматыцы ў Расіі з'явілася ў 1682 годзе і называлася "Лік зручны, якім кожны, хто купляе ці прадае, зручна знайсці можа лічбы ўсялякіх рэчаў". Пра якую табліцу ідзе гаворка?

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №38. Па гарызанталі.** 1. Місуры. 2. Шале. 7. Прабел. 8. Галандыя. 9. Кудзін. 12. Асташкава. 14. Індыкт. 15. Імператыў. 16. Прабор. 18. Пячора. 20. Абаранкі. 21. Імя. 23. Канкардат. 24. Лічбы. **Па вертыкалі.** 3. Ісціна. 4. Кейптаўн. 5. Спаленне. 6. Футбол. 10. Юкатан. 11. Праграма. 13. Гулівер. 16. Пошта. 17. Запальнічкі. 19. Чай. 22. Анклаў.

## ГАРАСКОП 29 ВЕРАСНЯ – 5 КАСТРЫЧНІКА

**АВЕН**. Вам трэба будзе рашуча ўзяцца за сваё жыццё, бо без вашага ўсвядомленага ўмяшання ў працэсы, якія адбываюцца ў ім, яно можа завярнуць не туды, куды б вам хацелася. Праявіце стараннасць і стараннасць ва ўсіх пачынаннях, а таксама не грэбуйце дапамогай спецыяліста ў адпаведнай галіне. Тады зможаце дасягнуць міру і дабрабыту ў любой сферы.

**ЦЯЛЕЦ**. Некаторыя з вас цяпер маюць шанец завесці рамантычнае знаёмства ў кампаніі, паездцы або па перапісцы.

**БЛІЗНЯТЫ**. Вы стараецеся выбудаваць трывалую аснову для свайго жыцця, шмат у чым разлічваючы на поспех і добразычлівасць вышэйшых сіл да вас. Але важна памятаць, што ўдача пераменлівая. Разлічвайце на свае веды і ўменні – яны заўсёды застануцца з вамі. Абзавядзіцеся сябрамі, якія падтрымаюць у цяжкай сітуацыі. І тады ніякія перамены і катастрофы ў жыцці вам не страшныя.

**РАК**. Праявіце кемлівасць і прыроджаную мудрасць, вам неабходна скарыстацца падказкамі ўнутранага свету. Гэта вельмі дапаможа разабрацца ў адносінах і зразумець, ці падыходзіць вам гэты чалавек.

**ЛЕЎ**. Вы зноў рызыкуеце увязацца ў патасоўку. Вам можа здацца, што вы адстойваеце свае інтарэсы, спрабуеце чаго-небудзь дасягнуць, але ў рэальнасці дарма марнуеце сілы. Вазьміце паўзу і прысвяціце яе вывучэнню сітуацыю, разуменню глыбінных прычын, якія прывялі да яе ўзнікнення, вашых жаданняў і таго, што падштурхоўвае вас да дзеяння.

**ДЗЕВА**. Выравацца на шлях у невядомае, насуперак сваім страхам і пераадолеўшы свае звычкі, – гэта пад сілу нямногім. Гэты шлях тоіць у сабе мноства прыгод, небяспекі, а гэтак жа дае магчымасць зразумець сябе і дасягнуць новых вяршынь.

**ШАЛІ**. Ёсць сур'ёзная рызыка заблытацца ў сваіх жаданнях і думках, у выніку чаго страціць раўнавагу. Будзьце прыхільныя да іншых людзей, даруйце ім памылкі і дапамагайце па меры магчымасці.

**СКАРПІЁН**. У сярэдзіне тыдня магчымыя рамантычныя знаёмствы і ўзнікненне новых пачуццяў, але да чаго прывядуць яны – нікому невядома.

**СТРАЛЕЦ**. Некаторыя з планаў могуць сур'ёзна разыходзіцца з рэаліямі вашага жыцця, і таму вам трэба будзе сёетое змяніць у сабе, у сваіх поглядах, каб пасля пачаць планамерны рух для дасягнення пастаўленых задач.

**КАЗЯРОГ**. Вам трэба сабрацца з сіламі. Што трэба рабіць – вы ўжо і так ведаеце, рашучасці ў вас дастаткова. Цяпер надышоў той самы момант, калі марудзіць нельга, трэба дзейнічаць.

**ВАДАЛЕЙ**. Якой бы ўладнай і моцнай натурай вы ні былі, трэба аднак памятаць, што мяккасцю і ласкавасцю таксама можна дасягнуць вельмі многага, калі ўмела гэта прымяняць.

**РЫБЫ**. Дні адзначаныя вашым трыумфальным шэсцем. Вы шмат дасягнулі і можаце з поўным правам ганарыцца сабой, даваць ўказанні і парады іншым.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | | | 2 | | 9 | | |
| | | | 7 | | | | | 8 |
| 2 | 5 | 7 | | | | | | 3 |
| | 9 | 6 | 4 | 7 | | | | |
| | | | 1 | | 6 | | | |
| | | | | 3 | 8 | 6 | 9 | |
| 6 | | | | | | 2 | 4 | 1 |
| 5 | | | | | 7 | | | |
| | | 3 | | 1 | | | 7 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА КАСТРЫЧНІК**

**"Кошкі-Мышкі"** 3+ (казка-гульня), *Аркадзь Хайт*
30 кастрычніка – у 10:30

**"Всё будет car хороШОУ!"** 6+ (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), *Алег Чэчанеў*
31 кастрычніка – у 10:30

ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ

**"Любоў па-італьянску"** 16+ (трагікамедыя ў 2-х дзеях па матывах п'есы Э. дэ Філіпа "Цыліндр"), *Эдуарда дэ Філіпа*
3 кастрычніка – у 19:00

**СПЕКТАКЛЬ ПРЫСВЕЧАНЫ ПРАФЕСІЙНАМУ СВЯТУ – ДНЮ РАБОТНІКАЎ КУЛЬТУРЫ**

**"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
6 кастрычніка – у 19:00

**СПЕКТАКЛЬ ПРЫМЕРКАВАНЫ ДА МІЖНАРОДНАГА СВЯТА – ДНЯ МАЦІ**

**"Афінскія вечары"** 14+ (сучасная гісторыя), *Пётр Гладзілін*
12 кастрычніка – у 19:00

**"Всё будет хороШОУ!"** 6+ (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), *Алег Чэчанеў*
13 кастрычніка – у 10:30

**ДЛЯ СЯМЕЙНАГА ПРАГЛЯДУ Ў ГОНАР СВЯТА**

**"Залатое сэрцайка"** 3+ (спектакль-гульня па матывах казак У.Арлова), *Святлана Навуменка*
13 кастрычніка – у 18:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Прыгажуні"** 16+ (амерыканская камедыя), *Айван Менчэл*
17 кастрычніка – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Плачу наперад"** 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*
22 кастрычніка – у 17:00

**"Месье з рагамі, мадам з вусамі"** 14+ (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях), *Марсэль Берк'е-Мерынье, Анатоль Курбскі*
26 кастрычніка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў. *Маладзечна, вул. Чкалава, 7.* Кантактныя тэлефоны: 75-29-16 – намеснік дырэктара, 76-17-32 – галоўны адміністратар, 75-24-17 – каса. E-mail: modt@tut.by, www.theatre-modt.by.

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**АДКРЫЦЦЁ ТЭАТРАЛЬНАГА СЕЗОНА**

Прэм'ера. "**Кошчын дом**" (музычная казка), С.Маршак (рус.)
8 кастрычніка – у 12:00

"**Кот у ботах**" (казка-прыгода), Г.Уладычына (рус.)
15 кастрычніка – у 12:00

"**Чырвоная шапачка**" (добрая казка), *Я.Шварц* (рус.)
22 кастрычніка – у 12:00

"**Шматочкі па закуточках**" (жыццёвая гісторыя), *Р.Осцер* (рус.)
29 кастрычніка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в. Тэл. (8-0176) 74-62-19, 50-56-96.

УНП 600136804

ISSN 1991–7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

**30 верасня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 / +13 | | +8 / +10 | | +7 / +11 | | +3 / +11 | |
| | 755 | → 2 | 751 | ↓ 2 | 752 | ↑ 2 | 747 | ↗ 6 |
| Вільня | +9 / +13 | | +8 / +9 | | +7 / +9 | | +7 / +10 | |
| | 762 | ↑ 2 | 759 | ↑ 2 | 758 | ↗ 4 | 752 | ↑ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.14
Захад 18.50
Даўжыня дня 11.36

Усход 16.52
Захад 1.29
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -2,7 °С у 2001 годзе
Максімальная тэмпература +23,1 °С у 1981 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 20,5 мм у 1978 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

**На плошчы співаюць фантаны. Побач на газоне прыляглі маладыя людзі з гаджэтамі. Крыху далей дзяўчына танцуе фаершоу, а хлопец эмацыйна ўслых чытае вершы Маякоўскага. З аднаго боку тусуюцца раварысты. З другога – байкеры. А вось хлопцы пад апладысменты выпадковых прахожых танцуюць брэк-данс. А на вуліцы ніводнага міліцыянера. Звычайны вечар у Кіеве. Пра тое, чым уразіла карэспандэнта "РГ" сталіца Украіны, чытайце ў наступным нумары.**



## "Мова Нанова Маладзечна" распачынае чарговы сезон

МАЛАДЗЕЧНА

**Бясплатныя, модныя, сучасныя, моўныя курсы "Мова Нанова" пачынаюць свой трэці сезон у Маладзечне.**

Заняткі, як і ў мінулым сезоне, будуць праходзіць штотыдзень па аўторках у бібліятэцы "Верасок".

За тры гады існавання курсаў мы разам з вамі шмат што вывучылі, пра шмат чаго даведаліся.

Сёлетні сезон будзе не выключэннем. Але фармат заняткаў крыху зменіцца. Стане яшчэ больш цікавых гасцей, цікавых заданняў.

Мы разам з наведнікамі будзем гуляць у інтэлектуальныя гульні і разам глядзець беларускамоўныя фільмы. Будзем вандраваць і прыдумваць.

Узрост наведнікаў не абмежаваны. Калі вы школьнік і хочаце лепш ведаць родную мову, то вам да нас. Калі вы студэнт і хочаце бавіць час са сваімі равеснікамі – вам таксама да нас. Калі вы працуеце, то ў нас вы зможаце адпачыць і зарадзіцца энергіяй на ўвесь працоўны тыдзень, калі пенсіянер – таксама вам у нас будзе цікава.

Далучыцца да курсаў можна з любога аўторка. Але лепш добрую справу пачынаць ад пачатку, бо ў нас на пачатак сезона ёсць падарункі.

Далучайцеся, з намі весела, карысна і вельмі па-беларуску.

**Вядоўцы курсаў Наталля ТУР, Галіна СУДНІКОВІЧ, Настасся РОЎДА.**

● ПРОСТА АНЕКДОТ

У аптэцы:
– У вас сродак для вырошчвання валасоў ёсць?
– Ёсць!
– Добры?
– Вельмі! Вунь бачыце каля касы чалавека з вусамі? Гэта мая жонка. Спрабавала корак зубамі адкруціць.

***

Школьнік знайшоў мільён долараў і здаў у міліцыю. Маці, глытаючы слёзы, кажа, што ганарыцца сынам.

***

Назбірала грыбоў, смажу цяпер. Што за грыбы – не ведаю. На ўсялякі выпадак памылася, пазногці нафарбавала і апранулася ва ўсё чыстае.

***

Семінар "Як не стаць ахвярай махляроў адмянецца". Білеты звароту не падлягаюць.

***

Адносіны нельганазваць сур'ёзнымі, пакуль вы не паглядзелі хаця б адзін серыял мінімум з шасці сезонаў.

***

– Афіцыянт, я знайшоў у віне сівы волас!
– Зусім не дзіўна, віну ж ужо 140 год!

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Што для вас значыць Дзень настаўніка



**Алена Мачэль, настаўніца беларускай мовы, Вілейка:**
– Гэта маё прафесійнае свята, якое заўжды вельмі чакаю. Сёлета змяніла месца працы, але не сферу дзейнасці. Цяпер працую ў беларускамоўнай сталічнай гімназіі. Вельмі задаволеная, што цэлымі днямі магу размаўляць на працы па-беларуску.



**Аксана Максімовіч, педагог-арганізатар, Вілейка:**
– Ну, вы знайшлі ў каго спытаць! Для мяне Дзень настаўніка – гэта праца, праца і яшчэ раз праца. Я ж педагог-арганізатар. А працу сваю люблю.



**Наталля Міхалевіч, студэнтка, Вілейка:**
– Прафесійнае свята ўсіх настаўнікаў, да якога і я ў хуткім часу буду мець дачыненне, бо вучуся ў педагагічным універсітэце на настаўніцу пачатковых класаў.



**Сяргей Макарэвіч, журналіст, Вілейка:**
– Для мяне гэта звычайны дзень. Сувязяў з настаўнікамі не падтрымліваю даўно, хоць сярод іх былі і добрыя людзі. Па школе не сумаваў ніколі.



**Таццяна Іваненка, настаўніца беларускай мовы, Маладзечна:**
– Гэта магчымасць у чарговы раз прыгадаць, што ты настаўнік, і падумаць, што нездарма выбраў сваю прафесію.



**Яна Вайтовіч, студэнтка, Маладзечна:**
– Лічу, што гэта асаблівы дзень і для настаўнікаў, і для вучняў. Магчымасць у чарговы раз сказаць "дзякуй" сваім настаўнікам і павіншаваць іх.



**Юры Сянкевіч, настаўнік пачатковых класаў, Чысць:**
Гэта магчымасць павысіць сваё акцёрскае майстэрства, бо мы штогод з калегамі ставім на школьнай сцэне што-небудзь з класікі: то "Несцерку", то "Паўлінку". А яшчэ нагода пасядзець з настаўнікамі на карпаратыве.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№39 (1170) 29.09.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 915 . Падпісана ў друк у 9.00 28.09.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.